

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 4 (4907) 27 студзеня 2017 г.






*Фота Кастуся Дробава.*

*Мікалай Чаргінец і Міхаіл Мясніковіч.*

# З думкай пра дзень сённяшні

**Сустрэча членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі і Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Міхаіла Мясніковіча стала пэўнага кшталту спробай актывізаваць дыялог паміж уладай і творцамі, магчымасцю пагутарыць пра набалелае і паразважаць пра будучыню.**

Як захаваць нацыянальную кніжную прастору, зрабіць беларускую літаратуру запатрабаванай і цікавай чытачу? Ці застануцца творы айчынных аўтараў прыярытэтнымі для беларускіх выдавецтваў? Як актывізаваць супрацоўніцтва ў межах Саюзнай дзяржавы? Гэтыя і многія іншыя пытанні абмеркавалі сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі падчас сустрэчы з Міхаілам Мясніковічам.


Працяг на стар. 2 ►


# Навучанне Беларуссю

## Тэатр, што натхняецца краінай

**...Люблю, калі спявае Таццяна Мархель. У яе так атрымліваецца, што заплюшчваеш вочы і нібыта ў вёсцы сябе адчуваеш. Асабліва калі пры гэтым артыстка яшчэ распавядае пра тое, як падчас святаў на стале шкварчэла свежаніна — тады ўвесь смак беларускай культуры пранікае ў свядомасць праз сакавітую мову актрысы. Верыш у яе песні: яны натуральныя. Матуліны. І сама яна — народная артыстка Беларусі — свая для ўсіх. Не таму, што ўмее быць сваёй. Таму што гэта для яе натуральна: Беларусь унутры яе жыве і пачуваецца вельмі ўтульна. Адчуваеш гэта — і зразумела, што краіны не толькі ў межах заключаныя, яны ў розуме, у сэрцы, у слове і нават ва ўсмешцы. Што і імкнуліся паказаць стваральнікі спектакля «Беларусь. Дыдактыка», які з'явіўся ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі да яго 25-годдзя.**

Фактычна гэты тэатр і з'явіўся, і развіваўся разам з краінай. Вучыўся яе разумець і адлюстроўваць. І вучыў разуменню іншых. Вучыць — у тым ліку праз праект «Беларусь. Дыдактыка». Але дыдактычная назва — хутчэй даніна чвэрцьстагоддзеваму існаванню калектыву, які насамрэч малады, хоць і ёсць у трупе свае карыфеі. Асобы, у якіх сапраўды можна павучыцца разуменню Беларусі.


Працяг на стар. 13 ►




*Таццяна Мархель у спектаклі «Беларусь. Дыдактыка».*

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, якім зацверджаны новы склад савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва. Склад савета фонду сфарміраваны з улікам абнэсці ратацыі яго членаў і абноўлены больш як на 60 працэнтаў. Старшыня савета фонду — Ніна Шарубіна, народная артыстка Беларусі, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Узраслі патрабаванні да адбору і зместу культурных праектаў з улікам іх сацыяльнай значнасці, маштабнасці і эфектыўнасці рэалізацыі як у асобных рэгіёнах, так і краіне ў цэлым, а таксама адказнасць арганізацый, якія атрымалі падтрымку фонду. Для дасканалага аналізу заявак на фінансаванне гэтых праектаў і ў мэтах выключэння суб'ектывізму ў рабоце фонду прадугледжана стварэнне пры Мінкультуры экспертнай камісіі.

✔ Гранты Прэзідэнта Беларусі на 2017 год прызначаны 93 кіраўнікам і спецыялістам арганізацый навукі, адукацыі, аховы здароўя і культуры. Адпаведнае распараджэнне падпісаў Прэзідэнт Беларусі. Прынцыпе распараджэння кіраўніка дзяржавы накіравана на падтрымку таленавітых спецыялістаў, стварэнне спрыяльных умоў для навуковага, адукацыйнага і культурнага патэнцыялу Беларусі. Гранты вылучаны ў тым ліку на стварэнне новых твораў мастацтва і правядзенне мерапрыемстваў, што садзейнічаюць захаванню нацыянальных духоўных традыцый.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народную артыстку Беларусі Святлану Акружную з юбілеем. «Больш за 50 гадоў Вы самааддана служыце сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Эмацыянальна багатыя гераіні, надзеленыя выразнай індывідуальнасцю, заўсёды прывабліваў публіку моцным характарам і ў той жа час тонкім лірызмам», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Новае Палажэнне аб Міністэрстве культуры зацверджана пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 17 студзеня 2017 года № 40. Пастановай зацверджаны пералік дзяржаўных арганізацый, падпарадкаваных Міністэрству культуры, і пералік гаспадарчых таварыстваў, акцыі (долі ў статутных фондах), якія належаць Рэспубліцы Беларусь і перададзены ў кіраванне Міністэрству культуры. У новай рэдакцыі Палажэння пашыраны пералік задач культурнага ведамства.

✔ Міністэрства культуры Беларусі правядзе папярэднюю адкрытую абарону творчых ідэй кінапраектаў альбо кінасцэнарыяў у ігравой, неігравой і анімацыйнай формах (прадпітчынг), рэалізаваць якія прадугледжваецца ў 2017 — 2019 гадах пры дзяржаўнай фінансавай падтрымцы.

✔ Год італьянскай культуры ў нашай краіне прысвечаны 25-годдзю беларуска-італьянскіх дыпламатычных адносін. Падчас прэс-канферэнцыі, якая адкрыла Год італьянскай культуры, пра гэта распавёў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Італьянскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Стэфана Б'янкі. Запланавана каля 30 мерапрыемстваў і праектаў, уключаючы канцэрты, спектаклі, выстаўкі і кінапаказы. Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў падкрэсліў важнасць правядзення Года італьянскай культуры, які прадоўжыць айчынны Год культуры-2016.

# З думкай пра дзень сённяшні

Дарэчы, кіраўнік Савета Рэспублікі з задавальненнем цытаваў Тургенева, успамінаў, як начамі чытаў Шамякіна, і разважаў пра тое, што сучасная беларуская літаратура мусіць распавядаць перадусім пра дзень сённяшні.

Ва ўступным слове старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец распавёў пра гісторыю творчай арганізацыі — з 2005 — 2006 гадоў, калі яна была ўтвораная, і да нашых дзён. Ён адзначыў, што многія творы аўтараў-сучаснікаў на вельмі высокім узроўні. Сёння ў складзе саюза працуе 10 секцый, а таксама абласныя і Мінскае гарадское аддзяленні. Мікалай Іванавіч падкрэсліў: у ліку дасягненняў саюза можна лічыць і тое, што цяпер без узгаднення з пісьменніцкай арганізацыяй не можа быць закрытая ніводная бібліятэка ў краіне.

— Прымаючы рашэнне закрываць бібліятэкі, часта кіруюцца фактам, што колькасць чытачоў змяншаецца, — заўважыў Мікалай Чаргінец. — На справе часта гэта не так. Здараецца, колькасць чытачоў сельскіх бібліятэк нават павышаецца. Тым не менш будынкі перадаюцца ва ўласнасць прыватнікам, а кніжныя фонды, над стварэннем якіх мы так старанна працуем, знікаюць. Спадзяюся, што ў будучыні дзякуючы аўтарытэтнаму, а цяпер і вырашальнаму голасу нашай арганізацыі такіх фактаў будзе значна менш.

У ліку важных кірункаў дзейнасці саюза на гэты год — акцэнты на юбілеях класікаў, правядзенне літаратурных святаў і сімпозіумаў. А яшчэ — больш актыўная праца з маладымі аўтарамі, выданне дэбютных кніг. Дарэчы, як адзначыў Міхаіл Мяснікові, гэты кірунак супадае з прыярытэтам палітыкі краіны ў цэлым.


Фота Кастуся Дробава.

Падчас сустрэчы ў Доме літаратара.

— Моладзь у нас адукаваная, дапытлівая, законапаслухмяная, але таксама і вельмі амбітная, — падкрэсліў Міхаіл Уладзіміравіч. — Усе гэтыя якасці варта скіраваць у патрэбнае рэчышча, затрымаць моладзь у краіне.

Што да знаёмства з сучаснай беларускай літаратурай, Старшыня Савета Рэспублікі распавёў, што прачытаў усе кнігі акадэміка НАН Беларусі, празаіка Уладзіміра Гніламёдава і нават на памяць ведае прыпеўкі з яго рамана «Расія», што знаёмы з творчасцю Уладзіміра Ліпскага і з задавальненнем перачытвае класіку — Купалу, Коласа, Шамякіна. Пра тое, якой павінна быць беларуская літаратура сёння, Міхаіл Мясніковіч разважаў так:

— Калі згадаць коласаўскія, шамякінскія творы, то, мне думаецца, яны былі папулярныя, бо гэтыя творцы пісалі пра сучаснікаў. Тыя раманы былі запатрабаваныя, бо прама ці ўскосна нехта бачыў у іх сябе. Таму, думаю, варта больш пісаць пра нашых сучаснікаў, пра наша жыццё і праблемы. Тады творы будуць зразумелыя. Натуральна, гэта досыць далікатная тэма, але на тое і пісьменнікі, каб паспрабаваць знайсці правільнае рашэнне.

Падчас сустрэчы творцы выказвалі занепакоенасць тым, ці застанецца ў прыярытэтах дзяржавы падтрымка беларускай літаратуры. Намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Карлюкевіч запэўніў, што сёлета ў параўнанні з мінулым годам дзяржаўныя датацыі сацыяльна значнай літаратуры не зменшацца, а, магчыма, нават павялічацца. Таму можна быць упэўненымі, што беларуская кніга знойдзе свой шлях да чытача.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Што творцы плануюць?

**Сёння ў грамадстве расце інтарэс да кнігі. Гэта падкрэсліў старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падчас пленуму прэзідыума творчай арганізацыі ў Доме літаратара.**

Паводле зацверджанага на пленуме плана дзейнасці СПБ на бягучы год, сёлета работа будзе ладзіцца з улікам мерапрыемстваў, якія пройдуць на рэспубліканскім і гарадскім узроўнях, у тым ліку розных творчых конкурсаў, распавяла першы намеснік старшыні СПБ Алена Стэльмах. Так, у Магілёве мяркуецца конкурс на лепшы літаратурны твор, прысвечаны жыццю і дзейнасці Францыска Скарыны. Акрамя таго, адзначаецца 950-годдзе Мінска, 100 год з дня нараджэння Пімена Панчанкі і Міколы Сурначова, 105 год з дня нараджэння Максіма Танка, 135 год з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Далучэнне да святкавання юбілеяў класікаў — важны аспект працы СПБ.

Яшчэ адзін кірунак дзейнасці СПБ — праца са школьнымі літаратурнымі музеямі. Днямі такі музей адкрыўся ва Уздзе — у гімназіі імя Кандрата Крапівы. Увогуле, школьныя літаратурныя музеі, як і кнігарні, — выдатныя пляцоўкі для сустрэч з пісьменнікамі. Такія сустрэчы — неад'емны кампанент выхавання сучаснай моладзі.

Сёлета адзначаецца 500-годдзе беларускага кнігавыдання. Гэтая тэма стане цэнтральнай для XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу (8 — 12 лютага), у межах якой пройдзе і семінар маладых літаратараў. Таксама будуць падведзены вынікі конкурсу маладых творцаў «Першацвет».

Мікалай Чаргінец звярнуў увагу на пытанні аб павышэнні ганарараў за выданне кніг і аб забеспячэнні пісьменнікаў арэндным жыллём, якія мяркуецца вырашаць у найбліжэйшы час.

На пленуме адбыўся і прыём у СПБ з уручэннем членскіх білетаў. Творчую арганізацыю папоўнілі паэтэсы Таццяна Цвірка, Кацярына Роўда, Марына Наследнікава (Пашук) і Святлана Якубоўская (Гарбачова), празаікі Руслан Казлоўскі, Алена Харашэвіч і Уладзімір Ліхадзедаў, літаратурны крытык Людміла Вараб'ёва, дзіцячая пісьменніца Таццяна Прышчэпава і краязнаўца Уладзіслаў Цыдзік. Акрамя таго, да СПБ далучыліся паэты Ізяслаў Катляроў і Соф'я Шах.

Зацверджаны і склад прыёмнай камісіі, куды ўвайшлі Уладзімір Саламаха, Алесь Марціновіч, Зіновій Прыгодзіч, Мікола Чарняўскі, Дзмітрый Пятровіч, Анатоль Зэкаў, Валянціна Палікаціна і Юлія Алейчанка. Старшынёй абраны Уладзімір Навумовіч. А яшчэ прынята рашэнне стварыць у межах СПБ савет старэйшын і савет маладых аўтараў.

**Яна ЯВІЧ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**30 студзеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**31 студзеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам і перакладчыкам Уладзімірам Скарынкіным у СШ № 13 г. Мінска (вул. Цікоцкага, 57, актавая зала). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**31 студзеня** — *на чарговы тур творчага конкурсу чытальнікаў паэзіі Беларусі ў Дом літаратара (вул. Фрунзэ, 5, Мемарыяльная зала). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**2 лютага** — *на літаратурнае свята, прысвечанае адкрыццю фотавыстаўкі Міхаіла Крыжаноўскага «Эпоха Агінскага. Аднаўленне памяці», у Заслаўскую гарадскую бібліятэку (вул. Студзянецкая, 4). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**3 лютага** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**4 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Ганнай Чумаковай у Мінскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж кулінарыі (пр-т Партызанскі, 70а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**30 студзеня** — *на прэзентацыю альманаха «Наддзвінне» («"Наддзвінне" — ад пачатку да сёння») з удзелам полацкіх пісьменнікаў у Наваполацкую дзіцячую бібліятэку імя С. Маршака (г. Наваполацк, вул. Маладзёжная, д. 106). Пачатак у 15.25.*

**1 лютага** — *на творчую сустрэчу з паэтам Мікалаем Наместнікавым «Жыццёвай прозы вечная паэзія» ў Віцебскую цэнтральную гарадскую бібліятэку імя М. Горкага (пр-т Фрунзэ, 30а). Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**28 студзеня** — *на прэзентацыю кнігі паэта Віктара Кудлачова «Здравствуй, Гродно!» у Гродзенскую гарадскую гімназію № 1 імя акадэміка Я. Ф. Карскага (г. Гродна, пр-т Я. Купалы, 82). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**28 студзеня** — *у літаратурную гасцёўню «Запрашае "Бярозка"» з удзелам пісьменніцы Ліны Багданавай у бібліятэку СШ № 12 г. Гродна (вул. Паповіча, 32). Пачатак у 13.30.*

**31 студзеня** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Слова-дром» у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага (г. Гродна, вул. Замкавая, 20, Новы замак). Тэма дыскусіі: «Пераемнасць у мастацтве». Пачатак а 17-й гадзіне.*

# Знаёмства з Паднябеснай

Ужо 25 год паспяхова развіваецца супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Кітаем. Да святкавання юбілейнай даты Выдавецкі дом «Звязда» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдаў зборнік «Беларуска-кітайскія адносіны ва ўспамінах беларускіх паслоў».

На ўрачыстую імпрэзу ў будынак Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі сабралася шмат ганаровых гасцей. У прэзентацыі кнігі ўзялі ўдзел міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітая ў Беларусі Цуй Цымін, намеснік Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Балясlaў Пірштук, а таксама беларускія дыпламаты, якія шмат гадоў працавалі ў Кітаі.

— Гэты праект унікальны, таму што аўтарамі кнігі сталі Надзвычайныя і Паўнамоцныя Паслы Рэспублікі Беларусь, якія ў розныя гады неслі сваю дыпламатычную місію ў вялікай краіне Кітай, — распавяла міністр інфармацыі Лілія Ананіч. — У зборніку — пранікнёны аповед аб працоўных буднях. У юбілейны для беларускага кнігадрукавання год хочацца адзначыць: кніга — вечная. Бо такія выданні захаваюць для наступных пакаленняў імкненне Беларусі і Кітая да агульнай будучыні.

Міністр інфармацыі нагадала, што гэта ўжо не першы падобны праект: выдадзены кнігі «Кітай вачыма беларусаў» і «Беларусь вачыма кітайцаў» на беларускай і кітайскай мовах, а таксама аналагічная кніга пра беларуска-кітайскія адносіны, але з пункту гледжання паслоў Кітайскай Народнай Рэспублікі, якія працавалі ў Беларусі, — «Беларусь вачыма кітайскіх дыпламатаў».



Фота Кастуся Дробава.

Сёння Кітай — гэта надзвычай моцная і перспектыўная краіна, якая зрабіла вялікі крок у развіцці. У кнізе «Беларуска-кітайскія адносіны ва ўспамінах беларускіх паслоў» — не толькі афіцыйныя звесткі пра падзеі-прыступкі, з якіх складалася лесвіца нашага супрацоўніцтва, але і асабістыя назіранні беларусаў, што апынуліся ў іншай культуры. Дыпламаты спрабуюць знайсці адказы на актуальныя для нашай краіны пытанні праз параўнанне з Кітаем, асэнсаваць замежны досвед, каб перанесці штосьці карыснае на беларускую глебу.

— З цягам часу страчваецца шмат інфармацыі. Дакументы, вядома, застаюцца, але ж праўда існуе не толькі ў дакументах, — разважае аўтар ідэі і ўкладальнік зборніка, экс-пасол Беларусі ў Кітаі, дырэктар рэспубліканскага Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя БДУ Анатоль Тозік. — Таму нарадзілася думка: сабраць у адну кнігу ўсе назіранні ды ўспаміны. У зборніку — тое, што мы, прадстаўнікі Беларусі ў Кітаі, хацелі сказаць маладым дыпламатам ды ўвогуле ўсім, хто цікавіцца Паднябеснай.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Увага: талент!

Сустрэча з лаўрэатамі спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2016 года ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі стала ўжо традыцыяй: кожную зіму будынак-алмаз запрашае да сябе таленавітых беларусаў.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі прывітаў гасцей імпрэзы і асобна вылучыў маладыя таленты, што прысутнічалі ў зале. Разам з дарослымі дзеячамі культуры на ўрачыстую цырымонію сёлета прыехалі вучні дзіцячай музычнай школы мастацтваў № 10 імя Яўгена Глебава (г. Мінск) ды ўдзельнікі студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва «Беларускі сувенір» Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Салігорскага раёна. Калектывы падрыхтавалі насычаную праграму. Выдатна спяваў малодшы хор дзіцячай музычнай школы мастацтваў пад кіраўніцтвам Галіны Аеравай. Асобныя выхаванцы школы паказалі надзвычай высокі ўзровень валодання музычнымі інструментамі падчас сольных выступаў.

Студыя «Беларускі сувенір» пад кіраўніцтвам Раісы Раманеня арганізавала майстар-класы па саломапляценні ў галерэі «Ракурс». Раіса Раманеня гадуе не толькі жыта для сваіх работ, але і... таленты. З такім уважлівым падыходам да справы творца, безумоўна, заслугоўвае самых высокіх узнагарод!

Тыя, хто не патрапіў на імпрэзу, да канца лютага могуць наведаць экспазіцыю «Вялікі талент, вялікая работа, вялікае сэрца» на другім паверсе: кніжна-ілюстрацыйная выстаўка прадстаўляе матэрыялы з фонду Нацыянальнай бібліятэкі, датычныя дзейнасці лаўрэатаў спецыяльнай прэміі Прэзідэнта і прэміі «За духоўнае адраджэнне».

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# КАЛІ ПІШАШ ПРА ТОЕ, ШТО ВЕДАЕШ...

У кнігарні «КнігаПоліс» гэтымі днямі ладзілася творчая сустрэча «Жыццё без кнігі — не жыццё» з празаікам, **старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом.**

Мікалай Іванавіч — чалавек унікальны: футбаліст, генерал-маёр міліцыі, ваенны, журналіст, пісьменнік, грамадскі дзеяч... За сваё жыццё (дарэчы, сёлета Мікалай Чаргінец рыхтуецца святкаваць васьмідзесяцігадовы юбілей) ён паспрабаваў сілы ў розных кірунках. Ды так заўважна, што ў 1998 годзе за разнапланавыя дасягненні ў галіне культуры і навукі нават патрапіў у Кнігу рэкордаў Гінэса! Але чым бы ні займаўся Мікалай Іванавіч, заўсёды працаваў сумленна, з душой. Напэўна, у гэтым сакрэт яго поспеху: якасна выконваць любую працу.

Падчас сустрэчы Мікалай Чаргінец прызнаўся, што падзяляе сваё жыццё на некалькі этапаў. Першы этап, ваеннае дзяцінства, пакінуў вялікі адбітак і ў душы, і ў творчасці пісьменніка. «Памятаю, як фашысты павесілі на слупе чалавека. Мы, дзеці, глядзелі на яго. Разумелі, што гэта жудасна, але... прызвычаіліся». Пісьменнік зрабіў акцэнт на тым, што сучаснай моладзі трэба расказваць пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Шмат яго кніг прысвечаны ваеннай тэме. Асаблівую ўвагу аўдыторыі Мікалай Чаргінец скіраваў на раман «Аперацыя "Кроў"», дзе акрамя мастацкага вымыслу змешчана мноства дакументальных звестак.

Але Другая сусветная — не адзіная вайна, якая патрапіла ў кола тэм Мікалая Чаргінца. Ён узначальваў абарону горада Кабула ў Афганістане, правёў больш за 200 ваенных аперацый, быў паранены. Пісьменнік як ніхто ведае, праз што прайшлі воіны-афганцы, і адлюстраваў іх пакуты ў сваіх кнігах. Героямі раманаў сталі не толькі тыя, хто ваяваў. У кнізе «Сыны» Мікалай Чаргінец звярнуўся і да... бацькоў, што чакалі сваіх дзяцей. Патрапіла на старонкі «Сыноў» і рэальная жанчына, што праводзіла на фронт двух сыноў, але ніводнага з іх не сустрэла…

Вядома, што Мікалая Чаргінца называюць пачынальнікам жанру беларускага дэтэктыва. Стварыць цікавыя і рэалістычныя дэтэктыўныя раманы яму дапамагае багаты досвед: пісьменнік працаваў у крымінальным вышуку, дзе прайшоў шлях ад радавога да начальніка Упраўлення крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў БССР. Пра тое, наколькі важна для аўтара ведаць сваю тэму, Мікалай Іванавіч Чаргінец распавёў на прыкладзе гісторыі стварэння свайго першага дэтэктыва «Чацвёрты след». Галоўныя героі рамана — міліцыянеры і злачынцы. Вядома, трэба звяртацца да разважанняў абодвух бакоў, раскрываць ход думак і следчых, і злодзеяў. Для дадатковай цікавасці пісьменнік прыдумаў, што рабаўнікі з яго дэтэктыва паехалі ў Магілёў і пракраліся ў ГУМ. Падрабязна распісаў, як яны разабралі цагляную трубу, як спусціліся ў краму, як усё адтуль вынеслі... Пасля таго, як «Чацвёрты след» выйшаў з друку, аўтар атрымаў ліст з Магілёва: мясцовая міліцыя прасіла яго назваць... імёны злодзеяў. Мікалай Чаргінец настолькі дасканала валодаў тэмай, што нечакана для сябе патрапіў у праўду: такі крадзеж насамрэч адбыўся!

— Я пішу пра тое, што ведаю, — сцвярджае Мікалай Чаргінец. — А калі бяруся за тэму, з якой асабіста не знаёмы, вывучаю справу з усіх бакоў, глыбока яе асэнсоўваю.

Ці не добрая парада для творцаўпачаткоўцаў? Размова са старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі яшчэ раз нагадала: кніга непарыўна звязаная з жыццём, бо жыццё — лепшая крыніца натхнення.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# ЛіМ-каляндар

**120 гадоў** таму нарадзіўся Уладзіслаў Дзяржынскі (сапр. Чаржынскі; 1897 — 1974), беларускі крытык, літаратуразнаўца.

**120 гадоў** таму нарадзіўся Хацкель Дунец (1897 — 1937), беларускі крытык, публіцыст. Пісаў на беларускай і яўрэйскай мовах.

**110 гадоў** таму створана выдавецтва «Наша Ніва». Існавала да 1914 г.

**110 гадоў** таму створана Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага, прафесійны беларускі тэатр. Існавала да 1913 года.

**110 гадоў** таму нарадзіўся Абрам Жораў (1907 — 1943), беларускі скульптар.

**23 студзеня** — 105 гадоў з дня нараджэння Барыса Пакроўскага (1912 — 2009), беларускага і расійскага опернага рэжысёра, педагога, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

**23 студзеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Валянціны Чэмберг (1917 — 1990), беларускай і расійскай актрысы, заслужанай артысткі БССР, народнай артысткі РСФСР.

**23 студзеня** 70-годдзе святкуе Анатоль Мікалаевіч Кулагін, беларускі мастацтвазнаўца, гісторык архітэктуры.

**25 студзеня** — 70 гадоў Уладзіміру Ткачову, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага, манументальнага мастацтва, жывапісцу.

**25 студзеня** 70 гадоў адзначае Тамара Чуглазава, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**25 студзеня** 50-годдзе святкуе Анастасія Гулак, фалькларыст, педагог.

**26 студзеня** — 80 гадоў Леаніду Панамарэнку, беларускаму мастаку дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

**26 студзеня** 70-годдзе адзначае Святлана Акружная, беларуская актрыса, народная артыстка Беларусі.

**28 студзеня** — 70 гадоў Мікалаю Бяздерберду, беларускаму мастаку-афарміцелю.

**29 студзеня** — 120 гадоў з дня нараджэння Генадзя Змудзінскага (1897 — 1938), беларускага графіка.

**29 студзеня** 70 гадоў святкуе Ларыса Густава, беларускі мастак дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва.

## Дайджэст

• Біблейская бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу адсвяткавала 20-годдзе. Яна з'явілася ў 1997-м дзякуючы намаганням доктара філалагічных навук і прафесара Анатоля Аляксеева. За 20 гадоў у Пецярбургскім універсітэце з'явілася кафедра і спецыяльнасць пад назвай «Біблеістыка», а стваральнік бібліятэкі быў узнагароджаны Прэміяй імя Ліхачова. Фонды складаюць творы дзесяці пакаленняў біблеістаў. Як адзначае прафесар Аляксееў, «постаць Ісуса Хрыста — самая вялікая загадка».

• Літаратурны музей імя Горкага можа пашырыцца. Не так даўно адбылося сумеснае пасяджэнне савета па культуры і мастацтве і савета па рускай мове, на якім узнялі пытанне па стварэнні Дома нацыянальных літаратур на тэрыторыі Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага, размешчанага ў Маскве.

• Нобелеўскі лаўрэат Святлана Алексіевіч пералічыла 5 тысяч долараў на стварэнне музея Алеся Адамовіча ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Як паведамлялася раней, 5 лістапада 2016 года ў Магілёве адбыўся круглы стол «Музей Алеся Адамовіча: супрацоўніцтва грамадскасці і ўлады», закліканы актывізаваць збор сродкаў на музей пісьменніка. Падчас мерапрыемства быў створаны грамадскі савет пры абласной арганізацыі «Таварыства беларускай мовы», задача якога — арганізацыя працы па зборы грошай. Найбліжэйшым часам павінен прайсці тэндар на распрацоўку праектна-каштарыснай дакументацыі для рэстаўрацыі будынка ў вёсцы Глуша Бабруйскага раёна, дзе плануецца размясціць музей. Ідэя стварэння музея Алеся Адамовіча належыць сябрам і землякам пісьменніка.

• Першы «ляжачы кінатэатр» з'явіцца вясной у Гродне. Кінатэатр незвычайнага фармату будзе адкрыты на базе моладзевага цэнтра «Гродна». Цяпер закупляецца неабходнае абсталяванне. У зале кінатэатра, апроч класічных крэслаў, з'явяцца зручныя шэзлонгі і канапы, тут жа будзе працаваць бар. Гэта не першая спроба ў Гродне стварыць кінатэатр новага фармату: цяпер паспяхова працуюць начны кінатэатр і кінабар. Цікава, што моладзевы цэнтр «Гродна» стварaўся на базе былога кінатэатра дзякуючы ініцыятыве моладзі рэгіёна, якая прапанавала выкарыстоўваць стары будынак у новым фармаце на конкурсе «100 ідэй для Беларусі».

• Збор сродкаў на выданне двухтомніка Уладзіміра Дубоўкі распачаты на краўдфандынгавай платформе «Талака». Гэта будзе найбольш поўны Збор твораў паэта, які 25 год правёў у сталінскіх лагерах. Пасля выхаду быў вымушаны прыстасоўваць уласныя вершы да густу чынавенства. У новым выданні літаратар і каментатар Дзмітрый Давідоўскі аднавіў першыя варыянты Дубоўкавых вершаў — тыя тэксты, што прынеслі яму вядомасць і любоў чытачоў. Апроч вершаў і перакладаў, у Зборы твораў друкуюцца філалагічныя работы Дубоўкі і ягоныя лісты, архіўныя тэксты. Над выданнем працавалі рэдактары Міхась Скобла і Віктар Жыбуль. Аўтар прадмовы — Ірына Багдановіч, мастак — Генадзь Мацур. Збор твораў Уладзіміра Дубоўкі выйдзе ў серыі «Галасы Айчыны» выдавецтва «Лімарыус», дзе раней пабачылі свет выданні Алеся Салаўя, Янкі Юхнаўца ды іншыя кнігі малавядомых класікаў беларускай літаратуры.

# Падарожжа па свеце Чорнага

**Найбольш вядомае яго выказванне «Чалавек — гэта цэлы свет» стала назвай для грунтоўнага тома пра Кузьму Чорнага ў серыі ЖЗЛБ. Прэзентацыя адбылася яшчэ ўлетку ў Мінску, але на тым стваральнікі не спыніліся. Разам з імі і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, з пісьменнікамі й музыкам мы выправіліся ў вёску Цімкавічы Капыльскага раёна — на радзіму класіка беларускай прозы.**



Фота з сайта bellitmuseum.by.

## НЕ МУЗЕЕМ АДЗІНЫМ

Гэтае літаратурнае падарожжа стала для музея сімвалічным завяршэннем Года культуры, тым больш што адбылося яно напярэдадні Раства Хрыстова. Мы атрымалі магчымасць зразумець, што ж за свет хаваецца за імем самога Кузьмы Чорнага. Да таго ж, у падарожжа выправіўся ўнук пісьменніка Мікола Раманоўскі.

Перад прэзентацыяй кнігі мы наведаліся ў музей пісьменніка. Музей — за некалькі крокаў ад школы, якая носіць імя Кузьмы Чорнага. Асноўныя наведвальнікі — дзеці ды настаўнікі. Зазіраюць і вяскоўцы, беларускія турысты. Зрэшты, шмат іх «перахоплівае» Нясвіж — неадольны канкурэнт. Але калі ў цімкавічан бываюць госці (часам з далёкага замежжа), іх абавязкова вядуць у музей Чорнага, адну са славутасцей мясціны.

Адну з, бо тут жа, побач, — старадаўнія брама і капліца, збудаваная ў гонар 19 лютага 1861 года, дня адмены прыгоннага права. Памятная шыльда, пабітая часам ды ржою, дасюль вісіць на капліцы (таксама з усімі прыкметамі даўніны). З аднаго боку, узнікае пытанне: колькі яшчэ пратрымаецца помнік архітэктуры ў такім стане? З іншага — аўтэнтычны выгляд капліцы ўражвае.

За старой брамай знаходзіцца царква, у якую наведвалася сям'я Раманоўскіх. Сёння храм выглядае дагледжаным, аднак рэстаўрацыя яго працягваецца. Сродкі дапамагае збіраць сусед — музей. Прычым даволі цікавым спосабам: яго загадчыца Людміла Ніжэвіч гадуе саджанцы кветак, якія ўсе ахвотныя купляюць за сімвалічны кошт. Гэтыя «раслінныя» грошы ідуць на рэстаўрацыю храма.

## БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ НА БАНЭРЫ

Музей Кузьмы Чорнага пачаў працу ў 1964 годзе. Доўгі час ён існаваў як школьны музей, а ў 1993-м набыў статус дзяржаўнага. Экспазіцыя апошні раз абнаўлялася ў 2014-м. Цяперашняя загадчыца музея Людміла Ніжэвіч працуе тут больш як 20 гадоў. Пані Людміла правяла для нас экскурсію, якая адчувальна з'ясавала пытанне: які ж ён, свет Чорнага?..



Фота з сайта kopyl.by.

Па-першае — напоўнены самаадданай, калі не фанатычнай, працай. Факт, вядомы са школьных часоў: Чорны пражыў 44 гады. 21 з іх аддаў літаратурнай працы. За гэты час выдаў 10 кніг апавяданняў, напісаў 15 раманаў і аповесцей, некалькі п'ес і безліч нарысаў, фельетонаў ды праблемных артыкулаў.

Па-другое, свет яго заўжды трымаўся на сям'і. Як большасць сялян, Раманоўскія жылі бедна. І як у большасці такіх сем'яў, гадавалі шмат дзяцей: акром Міколы — Маня і Ганна, Ягор і Міхал. Неацэнную ролю ў станаўленні генія Кузьмы Чорнага адыграла маці. Яна сама навучылася чытаць і навучыла грамаце любага сына. Па кнігі хлопчык наведваўся да суседа-святара. У яго ж вучыўся граць на фісгармоніі.

Да слова, план Капыльскай вуліцы, на якой жылі Раманоўскія, можна пабачыць у музеі. Гэта адзін з самых кранальных экспанатаў, як на мяне: цяпер вуліцы ўжо не існуе ў тым выглядзе, бо ў 1933 годзе тут здарыўся пажар, які выйнішчыў усё, акром адной хаткі і студні. З апошняй і сёння бяруць ваду. Гэты план маляваны ад рукі простай асадкай; няроўным почыркам пазначаныя хаты з прозвішчамі жыхароў. У іншым, упарадкаваным, выглядзе ён закрануў бы вас далёка не так.

Раманоўскія чыталі ўсё, што патрапіцца пад руку, — ад Бібліі і Льва Талстога да палітычных брашур. Калі дзеці займаліся чытаннем, маці сядала за кросны і працавала да знямогі — пры тым, што хварэла на туберкулёз. Яна казала мужу: «Няўжо мы нашага Коленьку не адправім вучыцца? Я буду дзень і ноч сядзець за варстаком, зараблять грошы, адно каб толькі сын вучыўся». І калі час вучыцца прыйшоў, сям'я й пераехала ў Цімкавічы (да таго жылі ў Борках, дзе школы не было).

Трэці складнік свету Чорнага — мастацтва, і далёка не толькі літаратура. У музеі, на аснове ўспамінаў аднавяскоўцаў, аднаўлены інтэр'ер хаты Раманоўскіх. На стале — абрус, сатканы маці. Раманоўскія заўжды валодалі гэтым майстэрствам: дзяды Чорнага — ткачы, маці была знанай майстрыхай, бацька таксама ткаў. Навучыўся гэтаму мастацтву і Мікола. На сцяне — балалайка, першы музычны інструмент, на якім навучыўся граць маленькі Мікола. Калі б не літаратура, ён, вельмі верагодна, мог бы стаць музыкам: не толькі любіў музыку, але й разумеў яе, тонка адчуваў, валодаў музычным талентам. Як згадана вышэй, граў яшчэ й на фісгармоніі, пасля — на піяніна (інструмант пісьменніка захоўваецца ў музеі).

А калі б не стаў прафесійным музыкам, то ўжо дакладна далучыўся б да шэрагу мастакоў. Маляваннем Мікола захапляўся ўсё жыццё, у тым ліку й тады, калі ўжо стаў Кузьмой Чорным. Яго работы — выдатная графіка. На жаль, захаваліся толькі малюнкі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Адна з іх — «Беларуская доля» — стала геніяльным штрыхом у інтэр'еры музея. Побач з банэрам можна ўбачыць арыгінал малюнка.

Чацвёрты «кіт», на якім трымаўся свет празаіка, — прырода. Цэнтральны вобраз тут, пэўна, — Скіп'ёўскі лес. Сюды дзеці разам з дзедам прыходзілі ўвесну — «вясну сустракаць, шчыгла выпускаць». Дзед распавядаў пра прыроду, вучыў яе разумець, і дзякуючы гэтаму Кузьма Чорны вядомы цяпер як майстар прыродных апісанняў, тонкіх і сугестыўных пейзажаў. Прырода ў яго жыве нароўні з галоўнымі героямі. Сёння Скіп'ёўскі лес таксама карыстаецца папулярнасцю: на мясцовым возеры адпачываюць жыхары ваколіцаў, сюды прыязджаюць рыбакі з Баранавічаў і Слуцка ды ўвогуле — з усёй краіны. Дарэчы, аповесць, над якой працаваў Чорны да апошняга імгнення, так і называлася — «Скіп'ёўскі лес».

Рыбаліць любіў і сам Чорны. Ён спускаўся ўздоўж Радзівілаўскага парка да ракі Мажы, падоўгу плаваў у чоўне, адзін ці з братамі. Але самай дарагой мясцінай была для яго Бушылаўская крынічка. Тут яны адпачывалі з маці па дарозе ў скіп'ёўскую царкву. Вада з гэтай крыніцы лічыцца гаючай для вачэй. Ёсць у гэтым нешта фатальнае, калі згадаць, што пасля інсульту ў 1941 годзе Кузьма Чорны часткова згубіў зрок.

І ўсе гэтыя мясціны «сабраліся» ў невялікай зале музея: тут выстаўленыя фотаработы, зробленыя падчас фотапленэру да 110-годдзя з дня нараджэння Кузьмы Чорнага.

## ЦІ ВЕШАЦЬ... СТАЛІНА?

На што яшчэ звярнуць увагу, калі вы наведаецеся ў музей пісьменніка ў Цімкавічах? Найперш — на першую публікацыю Міколы Раманоўскага ў часопісе «Зоркі». Апавяданне «Гузік» надзіва акутальнае сёння, што непазбежна засмучае. Настаўніца зрабіла хлопчыку заўвагу за адарваны гузік на каўнерыку і загадала «пришить пуговицу». Той бы й рады, але не разумее, што гэта за пугавіца такая. У выніку маці абурaецца: чаму ў беларускай школе настаўнікі размаўляюць па-руску?..

Але сам Кузьма Чорны пачаткам літаратурнай дзейнасці лічыў апавяданне «На граніцы», надрукаванае ў газеце «Савецкая Беларусь» у маі 1923 года. Тут ён упершыню падпісаны як Кузьма Чорны.

Музей мае цікавыя дакументы, датычныя згуртаванняў «Маладняк» і «Узвышша», прыкладам, пратакол ад мая 1926 года з паседжання «Маладняка», дзе пастанавілі «заяву аб выхадзе са складу прыняць да ведама».

Ёсць унікальныя фотаздымкі з сямейнага альбома. Вось — з жонкай Рэвекай. Яна навучалася ў БДУ, але праз матэрыяльныя цяжкасці кінула ўніверсітэт і ўладкавалася сакратаром-машыністкай у рэдакцыі газеты «Звязда». Як кажуць, усё да лепшага: тут яна пазнаёмілася з Міколам Раманоўскім.

У экспазіцыі добра асвятляецца драматургічная дзейнасць Кузьмы Чорнага, якая зазвычай застаецца ў цені. Ёсць пацешны шарж на пісьменніка: ён наседка, а вакол капошыцца літаратурная моладзь — кураняты, якую ён вучыць пісаць. Ёсць членскі білет, падпісаны Максімам Горкім. Увогуле, музей мае цудоўны збор кніг і рукапісаў, публікацый Кузьмы Чорнага.

Асобнай тэмай тут — дзіцячая літаратура, у тым ліку — аповесць «Насцечка», якую дзеці зараз вывучаюць у 6 класе. Як распавяла Людміла Іосіфаўна, прачытаўшы аповесць, дзеці прыходзяць у музей і ледзьве не патрабуюць чаго-небудзь яшчэ. Але прапанаваць няма чаго: з пачаткам вайны Кузьма Чорны пачаў пісаць зусім іншыя тэксты...

Дарэчы, у зале, прысвечанай часам Вялікай Айчыннай, разыгралася сцэнка, якая выдатна ілюструе светапогляд розных пакаленняў, рознае разуменне гісторыі. Над імітацыяй рабочага стала Чорнага вісіць партрэт Сталіна. Здавалася б, лагічна: экспазіцыя ўзнаўляе 1940-я, а ў той час партрэт тырана пазіраў са сцен любой дзяржустановы. Аднак Кастусь Цвірка прытрымліваецца іншай думкі і з абурэннем запытаўся ў загадчыцы, нашто тая вывешвае на агледзішча «гэтага ворага Беларусі». Пані Людміла карэктна заўважыла, што ў кожнага сваё меркаванне на гэтае пытанне, але Цвірка ўпарта стаяў на тым, што ва ўсіх погляд такі ж, як у яго.

Цікава разгледзець мапу Беларусі, якая належала Чорнаму: яна пярэстая ад сцяжкоў, якія пазначалі вызваленыя ад нацыстаў мясціны. Мапа 1939 года, і Цімкавічы на ёй знаходзяцца на мяжы з Польшчай.

Ёсць у музеі знаходкі: ліст да Адама Бабарэкі, у якім — роздум аб становішчы літаратуры і культуры; ліст Рыгора Бярозкі з запрашэннем наведаць Маскву; невядомыя пераклады Кузьмы Чорнага на рускую мову; планіроўка спектакля "Трэцяе пакаленне", які ішоў у БДТ-1 — і гэта далёка не поўны спіс.

## СЛОВА РАМАНОЎСКАГА

Прэзентацыя кнігі «Кузьма Чорны. Чалавек — гэта цэлы свет» праходзіла ў школе імя пісьменніка. Раней тут навучалася 700 дзяцей з Цімкавіч і ваколіцаў. Сёння — 300 чалавек, якія збіраюцца... з дваццаці вёсак.

Сабраліся на імпрэзу вучні, настаўнікі, бібліятэкары. Ці былі вяскоўцы? Не ведаю, не заўважыла. Але шкада, што такія мерапрыемствы зазвычай абмежаваныя школьнымі ды культурніцкімі ўстановамі.

«Вы землякі Кузьмы Чорнага, — пачаў свой выступ Віктар Шніп, галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура", у якім выйшла прэзентаваная кніга. — А я нарадзіўся за дзесяць кіламетраў ад Вязынкі, радзімы Купалы. Я хадзіў да яго, каб пачытаць свае вершы, і верыў, што ён жывы, ён чуе». Спадар Віктар распавёў пра гісторыю стварэння кнігі «Кузьма Чорны» і прачытаў баладу, прысвечаную пісьменніку.

Але асноўным выступоўцам была, безумоўна, Галіна Шаблінская, укладальніца кнігі. Яе прамова была прысвечаная самой рабоце, няпростай біяграфіі Чорнага, яго ўнікальным якасцям — працавітасці, самаадданасці справе... Словам, выхаваўчыя матывы адмыслова для школьнікаў адчуваліся ў прэзентацыі. Займальная была дэманстрацыя радыёспектакля па рамане Кузьмы Чорнага «Млечны Шлях». Таксама ў прэзентацыі бралі ўдзел Кастусь Цвірка, Ірына Багдановіч, Алесь Камоцкі і, вядома ж, вядоўца — прадстаўнік музея гісторыі беларускай літаратуры Вольга Гулева.

Мікола Раманоўскі не стаў казаць пра трагічны лёс Кузьмы Чорнага, навучаць школьнікаў жыццёвай мудрасці. Ён толькі перадаў у падарунак школе копіі старадаўніх мапаў ВКЛ і Рэчы Паспалітай: на абедзвюх пазначаны Цімкавічы. Я запыталася ў спадара Міколы: «Вы, пэўна, дзіўна пачуваліся ў музеі? Усе так падрабязна разглядаюць жыццё чалавека, які для іншых — класік, а для вас — родны чалавек...» — «Я б, магчыма, змяніў канцэпцыю экспазіцыі... Але...»

Працягу не было.

**Наста ГРЫШЧУК.**

**На здымках — абноўленая экспазіцыя музея Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах.**

# ГРАМАТЫКА З ДРУКАРНІ КУХТЫ

## «Бачу дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў...»

**Калі 2017 год праходзіць пад знакам Францыска Скарыны, то культурным сімвалам 2018 года магла б быць «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча. «Беларуская граматыка...» пабачыла свет у 1918 годзе, зазнала шэсць перавыданняў і была галоўным дапаможнікам для тысяч беларускіх дзетак. Сёлета ж беларуская грамадскасць адзначае 125-годдзе з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. Да юбілейнай даты была прымеркавана міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская граматыка: ад Браніслава Тарашкевіча да сучаснасці», якая ладзілася ў Нацыянальнай акадэміі навук.**

У межах канферэнцыі адбыўся круглы стол «Роля і месца Браніслава Тарашкевіча ў беларускім нацыянальным адраджэнні», дзе прысутнічала і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Алена Анісім.

— Многія выбітныя дзеячы, выхадцы з Беларусі, рэалізоўвалі свой талент і здольнасці на карысць іншых народаў. Браніслаў Тарашкевіч заўсёды працаваў для Беларусі. Дзякуючы атрыманай адукацыі і спрыянню розных людзей, ён знайшоў сябе як мовазнаўца і заклаў не цагліну, а цэлы падмурак для развіцця беларускай нацыянальнай мовы. Да таго ж Браніслаў Тарашкевіч актыўна займаўся палітычнай дзейнасцю і адстойваў інтарэсы свайго народа, — адзначыла Алена Мікалаеўна на пачатку сустрэчы.

Памяць пра Браніслава Тарашкевіча, як і пра многіх рэпрэсіраваных дзеячоў беларускай культуры, на некалькі дзесяцігоддзяў была сцёртая з памяці беларусаў. Калі ж у 1960-я гады ў НАН пачала выходзіць серыя кніг пра беларускіх вучоных, адна з першых выданняў было прысвечана акадэміку Браніславу Тарашкевічу. Аўтар гэтай манаграфіі, доктар філалагічных навук Арсень Ліс у дакладзе, падрыхтаваным да круглага стала, звярнуўся да жыццяпісу выбітнага беларускага мовазнаўцы.

Браніслаў Тарашкевіч нарадзіўся ў засценку Мацюлішкі (цяпер Літва), вучыўся грамаце ў адукаванай жанчыны з суседніх Наварышак. Па словах Арсеня Ліса, які наведваў мясціны жыцця Тарашкевіча ў 1970-я гады, тутэйшыя людзі — нават дзеці і нізавая савецкая адміністрацыя — гаварылі той беларускай мовай, якую Браніслаў Тарашкевіч апісаў у сваёй граматыцы.

Пасля навучання ў народным вучылішчы Браніслаў Тарашкевіч паступіў у Другую віленскую гімназію. У той час беларусы ўжо мелі ўласную газету — «Нашу ніву», і юнак неаднойчы заходзіў у рэдакцыю, кантактаваў з Антонам і Іванам Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім. Далей быў Санкт-Пецярбург, вучоба ва ўніверсітэце, заняткі з Яўхімам Карскім і Аляксеем Шахматавым, гурток Браніслава Эпімах-Шыпілы. Беларускія адраджэнцы чакалі ад Тарашкевіча распрацоўкі беларускай граматыкі — і праз два гады пасля заканчэння ўніверсітэта 26-гадовы мовазнаўца выдаў сваю галоўную навуковую працу ў Вільні, у знакамітай друкарні Марціна Кухты.

Пры распрацоўцы «Беларускай граматыкі для школ» Браніслаў Тарашкевіч арыентаваўся на граматыкі рускай, польскай і чэшскай моў. Але адметнасцю арфаграфічных норм беларускай мовы стала пашырэнне фанетычнага прынцыпу.

— Асаблівасць моўнай сітуацыі пачатку XX стагоддзя — прысутнасць у культурным полі беларусаў блізкароднасных рускай і польскай моў — абумовіла актуальнасць тэндэнцыі на аддаленне пісьмовай беларускай мовы ад пісьмовых рускай і польскай моў. Неабходнасць прадэманстраваць нацыянальную адметнасць беларускай мовы прадвызначыла пашырэнне фанетычнага прынцыпу ў беларускім правапісе, — адзначыў Аляксандр Лукашанец, член-карэспандэнт НАН Беларусі.

Калі «Беларуская граматыка для школ» выйшла з друку, то на працягу чатырох гадоў не мела крытычных заўваг у свой адрас.

— Нават з улікам тагачаснага стану беларускіх навуковых сіл і складанай сацыяльнай сітуацыі 1918 — 1921 гг. адсутнасць палемікі можна лічыць адным са сведчанняў паспяховасці граматыкі Тарашкевіча, — падкрэсліў дацэнт кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ Сяргей Запрудскі. — Да таго ж, праблемы, істотныя для сучасных мовазнаўцаў, маглі быць не вельмі актуальнымі для тагачасных моўцаў. Так, калі напярэдадні Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі 1926 года праходзіла нарада настаўнікаў і яе ўдзельнікі падрыхтавалі рэзалюцыю — што павінны вучоныя людзі абмяркоўваць на канферэнцыі, — то адзначылі, што пытанне запазычаных слоў для школы не істотнае, яно не мае асаблівага значэння ў выкладанні беларускай мовы.

*Браніслаў Тарашкевіч.*

Тым не менш з цягам часу асобныя палажэнні «Беларускай граматыкі...» пачалі абмяркоўвацца ў асяроддзі мовазнаўцаў — і ў прадмове да пятага перавыдання (1929) Браніслаў Тарашкевіч адзначыў, што «бачыць дужа выразна цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў (у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш...)». Мовазнаўца таксама заўважыў, што «бачыць патрэбу і магчымасьць спрашчэньня правапісу», выказаўся за правядзенне цэласнай рэформы, праекты якой маюць «прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыцьцё аўторытэтам культурных установаў». Цікава, што пры падрыхтоўцы гэтага «перарobленага і пашыранага» выдання Браніслаў Тарашкевіч устрымаўся ад увядзення змен, якія грунтаваліся б на пастановах Акадэмічнай канферэнцыі 1926 года. Трэба «высьцярагацца, каб лепшыя новыя дэталі не псавалі больш-менш не благога цэлага, якое ўжо існуе», адзначыў мовазнаўца.

У 1918 годзе Браніслаў Тарашкевіч не толькі выдаў граматыку, але і стаў адным з заснавальнікаў Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. Аднак надалей Браніслаў Адамавіч больш актыўна займаўся палітычнай, чым навуковай дзейнасцю, і з гэтай прычыны неаднаразова трапляў у польскія турмы. Па вяртанні ў СССР у 1933 годзе (у абмен на зняволенага савецкімі ўладамі Францішка Аляхновіча) Браніславу Тарашкевічу не дазволілі наведаць Беларусь — ён жыў і працаваў у Маскве і быў рэпрэсіраваны ў 1937 годзе, у 1938 годзе — прысуджаны да расстрэлу.

Пачынаючы з 1960-х гадоў дзейнасць Браніслава Тарашкевіча пачала вывучацца ў акадэмічных навуковых працах, але вяртанне яго работ у навуковы ўжытак было няпростым.

— Пра тое, у якіх умовах працавалі беларускія мовазнаўцы, можна меркаваць па манаграфіі «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» Івана Крамко, Антона Юрэвіча і Алены Яновіч, выдадзенай у 1968 годзе. У гэтай працы не згадваюцца прозвішчы Вацлава Ластоўскага і аднаго з першых беларускіх мовазнаўцаў Язэпа Лёсіка, адсутнічаюць спасылкі на працы акадэмічнай канферэнцыі 1926 года, якія на той час яшчэ захоўваліся ў «спецхране». Яшчэ ў 1984 годзе Я. Лёсік і В. Ластоўскі выкрываліся як «ворагі народа», — заўважыў Сяргей Запрудскі.

Напрыканцы XX стагоддзя некаторыя беларускія мовазнаўцы зноў пачалі крытычна выказвацца пра дзейнасць Браніслава Тарашкевіча, бо спроба выкарыстання «тарашкевіцы» як альтэрнатыўнага правапісу ацэньвалася імі як безумоўна дэструктыўная з'ява. Зрэшты, правядзенне міжнароднай канферэнцыі, прымеркаванай да 125-годдзя Браніслава Тарашкевіча, — факт супольнага прызнання яго вялікага ўнёску ў развіццё беларускай культуры. Аўтар «Беларускай граматыкі для школ» застаецца адной з галоўных постацей у айчыннай навуцы, бо правапіс, якім мы карыстаемся зараз, грунтуецца на асноўных палажэннях, выпрацаваных Браніславам Тарашкевічам.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Выдадзена ў «Мастацкай літаратуры»*

# «Рады я, і рад мой брат…»




Выняў радок з верша ў назву — і разумею, што шмат хто, прачытаўшы гэтыя словы, зразумее, успомніць: гэта ж — з верша Алеся Пісьмянкова. А знайшоў гэткі вершаваны ўспамін у новай кнізе Алеся Пісьмянкова «Чаму вожык не стрыжэцца?», выдадзенай у «Мастацкай літаратуры».

Прыгожыя малюнкі, добрая папера, з густам зроблены дызайн, макет, вёрстка кнігі, адрасаванай самым юным чытачам. Усяго толькі дзевяць вершаў сабраны пад адной вокладкай, а якая вялікая асалода ад перачытвання даўно знаёмага. Колькі асацыяцый звязана з памяццю пра выдатнага паэта, сімпатычнага чалавека, галоўнага рэдактара «Літаратуры і мастацтва», часопіса «Вожык», аднаго з яркіх арганізатараў літаратурнага жыцця ў нашай краіне ў 1980 — 1990-я — на пачатку 2000-х гг. Алесь Пісьмянкоў і пісаў шмат, і друкаваўся шмат. Але ж літаральна ўсё з напісанага ім перачытваецца, знаходзіць водгук у чытачоў розных пакаленняў. Ён меў талент ствараць сваімі мастацкімі адкрыццямі выключную атмасферу прыязнасці, шчырасці, адкрытасці.



«Рады я, і рад мой брат: / Нам купілі самакат! / І цяпер суседка Надзя / З намі дружыць, / З намі ладзіць, / А яе сяброўка Лера / Лічыць нас за кавалераў». Ёсць і яшчэ карацейшыя вершы. Напрыклад, вось гэты — «Як быць?»: «Без марожанага гіну. / А з марожаным — ангіна». Чытаючы творы Алеся Пісьмянкова, якія былі і застаецца для мяне асабіста цудоўным лірыкам, ды і таксама паэтам высокага сацыяльнага, грамадзянскага гучання, думаю пра яркіх дзіцячых творцаў Расіі — Карнея Чукоўскага, Самуіла Маршака, Агнію Барто, Сяргея Міхалкова, Ірыну Такмакову… Думаю пра нашых Васіля Вітку, Эдзі Агняцвет… Лёгкасць і даступнасць уяўленняў, яркая вобразнасць, мастацкая рэльефнасць, майстэрства адным сказам ствараць дынамічную дзею, вымалёўваць з'яву — вось што вылучае дзіцячыя вершы Алеся Пісьмянкова. Вось што якраз прыцягвае і да згаданай кнігі.

А што да малюнкаў, якімі Анастасія Сакалоўская праілюстравала зборнік Алеся Пісьмянкова, то яны з'яўляюцца красамоўным пацверджаннем сімпатый да вершаў, да саміх герояў — Алёшкі, Максіма, іх сяброў і сябровак. Мне не даводзілася раней разглядаць графічныя работы гэтага кніжнага мастака. Але ўжо і гэтай сустрэчы дастаткова, каб склалася пэўнае ўяўленне пра багатую аўтарскую фантазію. Поруч з прэзентацыяй кнігі А. Пісьмянкова трэба абавязкова праводзіць выстаўку малюнкаў Анастасіі Сакалоўскай. Гэта той выпадак, калі вершы і іх графічнае прачытанне супалі, знайшлі агульную інтанацыю па дарозе да чытача і гледача. Застаецца толькі павіншаваць выдавецтва «Мастацкая літаратура» з такой удачай, як выданне зборніка вершаў Алеся Пісьмянкова «Чаму вожык не стрыжэцца?».

**Сяргей ШЫЧКО**

# ДЗІЦЯЧЫЯ «ДАРОСЛЫЯ» КНІГІ,

## альбо Як распавесці дзіцяці пра сапраўднае жыццё

**Развод бацькоў, смерць блізкіх, цяжкая хвароба, вайна, гвалт, адносіны паміж мужчынам і жанчынай… Гэтыя тэмы рэдка можна сустрэць у дзіцячай літаратуры, таму што традыцыйна краіна дзяцінства пазбаўленая цяжкіх праблем і няшчасцяў. Але гэта ў ідэале, а насамрэч з многімі праблемамі чалавек сустракаецца ўжо ў дзяцінстве, і сустрэчы гэтыя маюць розныя наступствы.**

Некаторыя складаныя сітуацыі, дзякуючы асаблівасцям псіхікі і дапамозе дарослых, проста забываюцца, а іншыя пакідаюць страхі і комплексы. Усе дарослыя гэта разумеюць, а некаторыя нават бяруцца за небяспечную працу — напісаць дзіцячую кнігу на зусім не дзіцячую тэму. Чаму небяспечную? Таму што ў кожнага дарослага свая мяжа паміж дарослым і недарослым, і часта ўяўленні пісьменнікаў і бацькоў, у рукі якіх трапляюць дзіцячыя кнігі, могуць не супадаць. Аднак «дарослых» дзіцячых кніг становіцца ўсё больш, асабліва на Захадзе.

Як ні парадаксальна, дарослыя імкнуцца гаварыць з дзецьмі на дарослыя тэмы, таму што больш засцерагаюць іх, жадаюць пазбавіць праблем у будучыні. Парадаксальна, таму што «дарослая» дзіцячая літаратура ўзнікае не толькі на фоне большай свабоды літаратуры, тэлебачання, але і як своеасаблівы адказ на інфантылізацыю сучаснага грамадства, якая звязана з ростам матэрыяльнага дабрабыту, з наяўнасцю ўсё тых жа свабод і з'яўленнем масавай культуры. Змяніўся сам працэс выхавання.

Па-першае, бацькі год ад году губляюць лідарскія пазіцыі ў якасці аўтарытэтнага выхавацеля, ім даводзіцца сапернічаць з інфармацыйнай прасторай, якая зараз акаляе дзяцей.

Па-другое, мяняецца і сам інстытут сям'і, яе мадэль. Калі раней старэйшыя дзеці мелі магчымасць вучыцца адказнасці побач з малодшымі братамі і сёстрамі, то ў сучаснай аднадзетнай сям'і дзіця становіцца цэнтрам усеагульнай увагі.

Па-трэцяе, культ задавальненняў, якія транслюруецца масавай культурай, прымушае чалавека ўжо з дзяцінства думаць пра камфорт, душэўны і матэрыяльны. Нават сённяшняя адукацыя арыентуецца на асобаснае навучанне, шмат увагі прысвечана развіццю асобы, а не ўзаемадзеянню гэтай асобы з грамадствам.

Атрымліваецца, што дзіцячая кніга на дарослыя тэмы — гэта ўсё тая ж спроба «спрасціць» жыццё дзіцяці, сфарміраваць як мага больш спрыяльныя ўмовы для яго будучыні. Такім чынам, кніга пра развод, смерць ці таямніцу нараджэння накіравана не на тое, каб парушыць далікатны свет дзяцінства, а на тое, каб з дзяцінства прышчапіць правільнае стаўленне да гэтых з'яў і выпрацаваць патрэбны алгарытм паводзін. Матыў добры, але ці не атрымаецца ў выніку сітуацыя з вядомага міхалкоўскага верша «Пра мімозу», калі мы, дарослыя, занадта засцерагаем дзіця, не пакідаючы яму шансу на самастойнае знаёмства з рэчаіснасцю? У любым выпадку, дзіцячая літаратура змяняецца, у ёй з'яўляюцца дарослыя тэмы, і вельмі важна, каб пры гэтым яна заставалася ў першую чаргу літаратурай, а не дапаможнікам па навучэнні дарослаю жыццю.

Яшчэ адна важная праблема. У дарослых розныя погляды на адзначаныя з'явы, якія залежаць ад многіх фактараў: стаўленне да рэлігіі, уласны досвед і іншае. Так, неадназначную ацэнку атрымала «Кніга пра смерць» шведскай пісьменніцы Перніллы Стальфельт, у якой з дзіцячым гумарам распавядаецца не толькі пра шматлікія версіі наконт таго, што адбываецца з чалавекам пасля яго сыходу з жыцця, але і пра атрыбуты дадзенай тэмы: пахаванне, завяшчанне... Такая кніга нібы дапамагае дзіцяці пераадолець адзін з галоўных дзіцячых страхаў, а з іншага боку, можа гэты ж страх развіць, бо адназначнага адказу наконт таго, што адбываецца з чалавекам пасля смерці, у кнізе так і няма.

У той жа пісьменніцы ёсць яшчэ адна кніга на дарослую тэму — «Кніга пра каханне», якая не абмінае сферу інтымных адносін, у тым ліку ў аднаполых парах. Кнігі-варыяцыі на тэму «адкуль я ўзяўся» — не рэдкасць у апошні час, аднак і цяпер няма адзінага погляду ні ў псіхолагаў, ні ў педагогаў пра карысць такіх кніг. У айчыннай літаратуры няма такіх кніг, аднак сама тэма закранаецца некаторымі аўтарамі. Прычым погляды пісьменнікаў супадаюць: асноўным вектарам адносін паміж жанчынай і мужчынам павінна заставацца каханне, а не сексуальнае выхаванне.

Апошнім часам пашырылася тэндэнцыя да стварэння казачных аповесцей, якія могуць мець шмат частак. Дзякуючы гэтаму ў аўтараў з'явілася магчымасць надаць значна больш увагі сацыялізацыі свайго героя, выбудаваць больш выразную і разгалінаваную сістэму персанажаў. Дзеці-героі сталі хутка «абрастаць» сваякамі. Пры гэтым з'яўленне дарослага ў дзіцячым свеце непажаданае. Літаратурныя казкі ілюструюць не толькі мікраклімат у сучаснай сям'і, але і стан дзіцяці, якому даводзіцца адчуваць на сабе разлад у адносінах паміж бацькамі.

У гэтым сэнсе паказальныя творы Таццяны Сівец «Самы лепшы падарунак» і Алены Масла «Пакінутае дзіця». Твор Т. Сівец — казачная аповесць, дзе галоўная гераіня Танечка на ўласным досведзе спазнае дарослыя праблемы. Трэба адзначыць, што «прыдумка» як жанраўтваральны элемент у творы дастаткова ўмоўная. Да праяў цуду можна аднесці залатую рыбку, якую дзеці бачаць у вазе, з'яўленне Адзінокай Хваробы, аднак пры гэтым верагодна, што залатая рыбка апынаецца пялёсткам ад кветкі, а дзіўную істоту дзяўчына магла ўбачыць падчас трызнення, калі хварэла. Такім чынам, цуд «прыдуманы» не аўтарам, а гераіняй твора. Магчыма, гэта звязана з тым, што чытацкі адрас твора шырэйшы за дзіцячую аўдыторыю. Твор як адлюстраванне перажыванняў дашкольніка становіцца карысным і для дарослага.



*Калаж Алесі Ісы.*

У першай частцы казкі «Разбіты кубак» на дзяўчынку свавараца за разбіты посуд, а вечарам яна падслухоўвае спрэчку бацькоў. У свядомасці маленькай Таццяны гэтыя дзве з'явы звязаныя. Раніцай адбываецца тое, што маленькай дзяўчынцы цяжка прыняць: «Гэта дарослыя справы, Таня. Твой тата застанецца тваім татам. Проста ён не будзе жыць з намі, — мама імкнецца сказаць гэта бадзёра, нават весела, як пра нешта будзённае, нібыта кажа, што яны пойдуць разам у парк на выхадных».

Нягледзячы на ўсю правільнасць слоў маці, яе настрой, Таня адразу адчувае сваю віну за тое, што адбылося, нібыта бацька пайшоў з дому толькі праз разбіты кубак. Як правіла, класічнай рэакцыяй на развод бацькоў, па сцвярджэнні псіхолагаў, з'яўляецца злосць і пачуццё віны. Апошняе якраз і знайшло адлюстраванне ў творы. Амаль да канца казкі аўтар не вяртаецца да адзначанай праблемы, аднак гераіня адчувае паўнае расчараванне ад дзеянняў дарослых. Магчыма, залішняя фантазія як вынік адмаўлення ад кепскай рэчаіснасці і становіцца вынікам такога расчаравання.

Бацькі год ад году губляюць лідарскія пазіцыі ў якасці аўтарытэтнага выхавацеля, ім даводзіцца сапернічаць з інфармацыйнай прасторай, якая зараз акаляе дзяцей.

У канцы твора дзяўчынка і маці святкуюць Новы год, аднак у абедзвюх думкі зусім не святочныя: «Ён прыйдзе, — шэпча Танечка маме. — Я ведаю. Я загадала, калі задзьмувала свечкі на торце ў дзень народзінаў. І Дзеда Мароза я папрашу. Ён абавязкова прыйдзе». Самым лепшым падарункам у такіх умовах становіцца менавіта прыход бацькі, якога чытач кнігі так і не дачакаецца. У творы ўзнімаюцца і іншыя дарослыя праблемы: што такое смерць, вяселле, чым заканчваецца сапраўдны бунт.

Кніга А. Масла «Пакінутае дзіця» пачынаецца са своеасаблівай крытыкі ўсім вядомай версіі з'яўлення дзяцей: «Як ілгуць маленькім дзецям, калі кажуць, што іх скінулі ў двор, кружачы над хатай, буслы. Або што іх знайшлі ў капусце». Насамрэч, на думку аўтара, дзяцей стварае Бог, яны жывуць у Краіне Шчасця і чакаюць свайго прызначэння, а менавіта дня, калі ў выглядзе зерня іх перададуць тату, а ён аддасць зерне маці. Аднак у казцы здараецца нечаканае: тата кідае маці, а разгубленая маці ў сваю чаргу пакідае дзяўчынку ў радзільным доме. Далейшы шлях дзяўчынкі нешчаслівы: прыёмныя бацькі далі ёй матэрыяльныя каштоўнасці, але не здолелі палюбіць. У выніку дзяўчынку забіраюць назад у Краіну Шчасця анёлы. Выхаваўчы аспект казкі відавочны: бацькі павінны разумець адказнасць за будучае дзіця. Прычына безадказнасці бацькоў ніяк не звязана са сферай інтымных адносін паміж імі, іх ведамі ў гэтай галіне, аднак у якасці зыходнай кропкі жыцця аўтар абірае каханне. Такім чынам, пісьменніца выступае не за сексуальнае выхаванне, а за выхаванне маральна-этычных адносін паміж мужчынам і жанчынай.

Гэтая праблема адзначана ў аповесці Валера Гапеева «Урокі бяспечнага кахання», дзе самі падлеткі абвінавачваюць дарослых: старэйшыя насаджаюць думку пра выключную неабходнасць кантрацэпцыі ў адносінах паміж хлопцам і дзяўчынай, а не кахання. Аповесць падлеткавая, але праблема, пастаўленая ў ёй, адрасаваная ў тым ліку дарослым, якія вырашаюць закрануць з дзецьмі так званае палавое пытанне. Сапраўды, ці правільную канстанту выбіраюць пісьменнікі, педагогі, бацькі, калі залішне прыніжаюць юнацкае пачуццё. Зразумела, што для падлеткавай літаратуры тэма інтымных адносін — адна з цэнтральных, аднак заходнія аўтары прапануюць так званую тэму сексуальнага выхавання і для малодшых дзяцей. І вось тут твор В. Гапеева адлюстроўвае галоўную супярэчнасць сітуацыі — крывадушную пазіцыю дарослых датычна гэтай тэмы. Распавесці дзецям пра секс — гэта значыць у нейкім сэнсе занізіць іх пачуцці да звычайных інстынктаў, паведаміць, што галоўнае ў інтымных адносінах — правільная кантрацэпцыя і больш нічога. У гэтым сэнсе наша літаратура, на шчасце, застаецца кансерватыўнай і традыцыйнай. А. Масла гаворыць пра адказнасць бацькоў, пра любоў да дзіцяці, прытым што сюжэт казкі адпавядае нярэдкім сёння выпадкам, калі людзі імкнуцца атрымаць толькі задавальненне, а не клапаціцца пра іншых.

Дзіцячая літаратура змяняецца, у ёй з'яўляюцца дарослыя тэмы, і вельмі важна, каб пры гэтым яна заставалася ў першую чаргу літаратурай, а не дапаможнікам па навучэнні дарослаю жыццю.

Нягледзячы на складанасць праблемы, трэба трымаць у думках, што «дарослыя» дзіцячымі кнігамі аўтары дакладна не хацелі нарабіць шкоды дзецям. У гэтым сэнсе вельмі трапным будзе меркаванне Людмілы Сцяпанавай у часопісе «Пераплёт», адзін нумар якога быў цалкам прысвечаны адзначанай праблеме. «Я схільная заявіць: у дзіцячай літаратуры дазволена ўсё, калі змест гэтага "ўсяго" вызначаны пранікілвым клопатам аўтара пра лёс духу дзіцяці, праўдзівай крыніцай будучыні, будучага цэлага, перад якой сучасныя дарослыя такія разгубленыя. Вось і ўзнікаюць дзёрзкія эксперыменты з тэмамі і сюжэтамі ў дзіцячай кнізе».

Таццяна ПЯТРОЎСКАЯ

# Прыгоды Несцеркі ды іншых

**Што трэба зрабіць, каб дзіця зацікавілася тэатрам? Часцей хадзіць на прадстаўленні, разам абмяркоўваць спектаклі, расказваць аб працы акцёраў, рэжысёраў, дэкаратараў... А да таго ж чытаць па ролях любімыя апавяданні і нават драматычныя творы для дзяцей. Чытанне па ролях — адна з самых папулярных практык дзіцячага чытання, гэта магчымасць арганізаваць віртуальны спектакль, спалучыць чытанне з іншымі відамі пазнаваўчай, творчай, эмацыянальнай дзейнасці.**



З гэтага вынікае, што драматычныя зборнікі прыдадуцца не толькі настаўнікам і кіраўнікам школьных тэатраў, але і бацькам. Такія кнігі ў нашай краіне выдаюцца нячаста, таму зборнік п'ес для дзяцей Георгія Марчука можна лічыць прыкметнай падзеяй мінулага года. Кніга «Агапка, Арцёмка і злы Воўк» змяшчае 10 п'ес, большасць якіх добра вядомыя гледачам з розных гарадоў.

«Наша свядомасць арганізавана так, што ўсё роўна на сцэне будзе дабро і зло, якія абавязкова сутыкнуцца ў канфлікце, і хтосьці павінен сказаць: гэта — чорнае, а гэта — белае, гэтак жа, як Гамлет прамовіць: "Быць ці не быць?"» — разважаў Георгій Марчук падчас аднаго з «круглых сталоў» у газеце «Культура». І сапраўды, канфлікт паміж дабром і злом галоўны для дзіцячых п'ес гэтага драматурга. Нядобрыя і гультаяватыя падпарадкоўваюць добрых і слабых, якім даводзіцца аб'ядноўвацца і шукаць паратунку ў справядлівых і моцных альбо разумных і вынаходлівых. Гэта сюжэтная схема рэалізуецца ў некалькіх творах зборніка.

Так, нескладаная, але добрая п'еса — «Начны госць» — знаёміць гледачоў з мышанём Шушам, якое крадзе прадукты з чужой кватэры, каб пракарміць свайго гаспадара Злога Пацука. Аднойчы мышаня трапляе ў аблаву, падрыхтаваную сабакам Квасам, катом Блэкам і папугаем Ламбадам. Жывёлы шкадуюць мышаня (бо мышы жывуць толькі два гады, а ў падвале халодна і няма чаго есці), перамагаюць пацука і прапануюць Шушу застацца з імі. «Як добра жыць у дабрыні і згодзе, як добра жыць, калі за плячыма ёсць сябар, як добра, што Бог даў жыццё, і трэба, каб яно было шчаслівае. А шчасце — у дабрыні, працы і сяброўстве» — пра гэта спяваюць героі п'есы, пра гэта — усе без выключэння творы Георгія Марчука.

У казцы «Тушканчык і чароўны чамаданчык» героям даводзіцца трываць непрыемнасці ад жорсткага тырана Пузатага-паласатага, які, здаецца, патрапіў у п'есу з літаратуры савецкага часу. У «Зімовай песні жаўрука» Шпак і Жаўрук трапляюць у няволю да Крумкача — крымінальнага аўтарытэту птушынай банды. Зразумела, што некаторым дзецям даводзіцца сутыкацца з аўтарытарнымі паводзінамі дарослых ці аднакласнікаў, але вышэйзгаданыя творы маюць надта аддаленае падабенства да праблем сучасных школьнікаў. П'еса як папярэджанне на будучыню, бадай, не вельмі зацікавіць маленькага гледача. Больш пашанцуе тым гісторыям, якія тычацца гледачоў асабіста, перагукваюцца з вядомымі сюжэтамі ці дазваляюць патрапіць у звыклы казачны свет. Такія творы ў зборніку ёсць таксама.

Напрыклад, п'еса «Ясь, Яніна і каралева Аварыя» нагадвае пра значнасць правілаў дарожнага руху: Святлафор, Шлагбаум, Знакі-стрэлкі дапамагаюць дзецям выбрацца з краіны Каралевы Аварыі — а без канкрэтных ведаў гэта ніяк не атрымаецца!

Твор, які даў назву зборніку, з класічным сюжэтам. Карыслівая мачыха не жадае дабра падчарцы і не згаджаецца на яе вяселле з каханым. Жаніх пераадольвае перашкоды, каб прынесці мачысе багаты падарунак, але на яе вачах скарб ператвараецца ў вугалле. У гэтым творы цікавасць выклікаюць шаржаваныя вобразы галоўных персанажаў: Арцёмка і Агапка — мілыя, наіўныя і сумленныя. Драматург, здаецца, злёгку іранізуе з гэтых ідэалізаваных герояў. Затое сквапная мачыха паўстае сучаснай прадпрымальнай кабетай. Саркастычная, вострая на язык гераіня атрымалася ці не самым запамінальным персанажам для маленькіх бабруйчан, якія маглі пабачыць спектакль «Агапка, Арцёмка і Злы воўк» у 2009 годзе.

Адзін з любімых герояў Георгія Марчука — вясёлы вынаходлівы Несцерка, прыгоды якога ўвасоблены ў п'есах «Несцерка і злодзей» і «Новыя прыгоды Несцеркі». У першым творы галоўны герой выводзіць на чыстую ваду злодзея і вядзьмарку, якія збіраліся перашкодзіць каханню Янкі і Марыйкі. У другім трымае экзамен на панскага кухара, дапамагае кавалю вызваліць з маёнтка дачку і прагнаць з хаты гультаёў шляхціцаў — і ўсё гэта з прыпеўкамі, жартамі, прыказкамі...

Сярод іншых твораў вылучаецца п'еса «Паўлік і Злы Дух Асфальту» — бадай, адзіная рэч, дзе праз сутыкненне дабра і зла аўтар звяртаецца да канкрэтных сацыякультурных праблем. Злы Дух Асфальту парушае мірнае жыццё вяскоўцаў і мае самыя жудасныя намеры: «Будзе шэра ўсё наўкола. / Будзе чорна ўсё наўкола. / Памагатых пазаву, / Мы засыплем вам траву. / Будзе тут асфальт для шын. / Цір, стаянка для машын». На дапамогу Паўліку і ягонай бабулі прыходзіць святы Юры. «Сваё трэба бараніць ад усіх злых духаў разам» — упэўнены героі, і найвышэйшыя сілы падтрымліваюць іх у гэтым памкненні.

П'есы Георгія Марчука маюць прадказальны фінал, але ў распрацоўцы персанажаў аўтар абсалютна непрадказальны. Некаторыя героі могуць падацца занадта непаслядоўнымі, занадта бездапаможнымі, занадта абмежаванымі — але гэта зусім не праблема... Калі вам спадабалася ідэя п'есы, то, як чалавек крэатыўны, вы можаце крыху перапрацаваць яе на свой густ. Галоўнае, што ў зборніку шмат гумару і досціпу, шмат яркіх эпізодаў — а значыць, ёсць, з чаго выбіраць, і ёсць, чым натхняцца на далейшае знаёмства з айчыннай драматургіяй.

**Юлія ШПАКОВА**

# Розныя, падобныя

Кнігі серыі «Сяброўства без межаў» Выдавецкага дома «Звязда» нагадваюць, што свет дзяцінства аднолькава светлы і радасны для малечы розных краін.



Новыя кнігі серыі — зборнік вершаў «Адна сям'я» татарскага паэта Роберта Мінуліна і кніга вершаў ды апавяданняў «Гулялек — чырвоны мак, або Тонкі сшытак» Касыма Нурбадава, аўтара з Туркменістана.

У грунтоўнай прадмове Алеся Карлюкевіча да кнігі «Адна сям'я» Роберт Мінулін паўстае сур'ёзным, прадстаўнічым, мэтанакіраваным. Разам з тым гэта добразычлівы, вясёлы, зацікаўлены дзіцячым жыццём творца — а менавіта гэтыя якасці вельмі прываблiваюць маленькіх чытачоў.

Напэўна, самымі сімпатычнымі для дзяцей будуць вершыкі пра хітраватых і вынаходлівых герояў, якія па-добраму жартуюць, знаходзяць арыгінальнае выйсце з няпростых сітуацый і прыдумляюць розныя дзівосы. Напрыклад, чаму б не здарылася так, каб снег ішоў летам і можна было адначасова загараць і катацца на лыжах?.. У кнізе можна адшукаць трапныя творы на розныя выпадкі жыцця. За сталом нагадаць пра жыццядайную сілу жытнёвых каласкоў, зімовым ранкам прачытаць вершык пра адважных дзяцей, ад якіх залежыць шмат важных спраў (таму трэба ісці ў садок і не зважаць на мароз). На дзіцячай пляцоўцы можна праспяваць песеньку пра арэлі. Дзякуючы перакладчыцы Яне Явіч знаёмства з татарскай паэзіяй будзе радасным і цікавым.

І ўжо тым больш знаёмы са светам дзіцячых забавак Касым Нурбадаў: у пісьменніка шасцёра дзяцей і пятнаццаць унукаў ды ўнучак. Гулялек — імя адной з дачок, перакладаецца як «чырвоны мак». Такі ж яркі, няўрымслівы, маляўнічы вобраз малой гарэзы паўстае са старонак сапраўды тонкага сшытка. Дзе, аднак, знайшлося месца мностве вялікіх падзей, якія для чалавека з'яўляюцца лёсавызначальнымі: гэта сяброўства і ў нечым самаахвярнасць, што выяўляе шчырую любоў да блізкага чалавека; гэта нараджэнне малодшай сястры, а значыць, змушанае сталенне, адчуванне адказнасці; гэта першы дакор сумлення і першае шчырае пакаянне. Насамрэч абстрактныя паняцці гучаць даволі сур'ёзна і важка як для дзіцячай кніжкі, аднак Касым Нурбадаў не змушае свайго чытача да нейкіх павіннасцяў. Усё, што ён робіць, — распавядае пра выпадкі (пэўна ж, рэальныя) з жыцця дзвюх дзяўчынак. За жартаўлівымі сцэнкамі хаваюцца даволі значныя праблемы. Прыкладам, нястрашны падман аказваецца невыносным для Гулялек, і там, дзе дарослы ўсміхнецца, дзіця перажывае вялікую трагедыю. Якраз несупадзенне маштабаў розных жыццёвых падзей у свядомасці дзяцей і дарослых кідаецца ў вочы найперш, калі знаёмішся з творамі Касыма Нурбадава.

Зрэшты, наўрад ці варта ўзрошчваць у дзіцяці «залішнюю» сумленнасць, якая вяртаецца гіперадказнасцю з процьмай комплексаў ды пачуццём бясконцай віны. З дапамогай «Тонкага сшытка» можна паспрабаваць знайсці баланс — балазе, аўтар (у перакладах Алеся Карлюкевіча і Юліі Алейчанка) дае для таго нямала практычнага матэрыялу.

**Юлія ШПАКОВА, Наста ГРЫШЧУК**

# Адкуль з'явілася Баба-Яга?




Як пасябравалі Воўк ды Заяц? І што не прадаецца за грошы? Адказы на гэтыя пытанні дае Арнольд Дыбча, прычым не толькі арыгінальныя, але й займальныя, аздобленыя адначасна гумарам і мудрасцю, словам, — сапраўдная літаратура для дзяцей.

Зрэшты, такія кнігі, як «Коткін хвост», цешаць не толькі маленькіх чытачоў. Заўжды прыемна між радкоў заўважыць прыхаваны жарт, адрасаваны бацькам, і ўвогуле адчуваць, што аўтар не лічыць свайго адрасата непатрабавальным да літаратурнага тэксту, наіўным, інфантыльным. Казкі і апавяданні Арнольда Дыбчы напісаныя так, быццам аўтар наўпрост распавядае іх дзецям. Ёсць у гэтым пэўная доля ісціны: як паведамляе кніга, першая казка з'явілася падчас шпацыру з сынам. Дух мастацкай імправізацыі застаўся і ў далейшай творчасці. Нязмушанасць, нават гарэзлівасць, што ў дзіцячых кнігах неабходна як паветра, застаецца як у казачных гісторыях, так і ў кароткіх апавяданнях «з жыцця», дзе апісваюцца будзённыя выпадкі. Прыкладам, іспыт у музычнай школе, адпачынак на моры, назіранні за месяцам. Непаўторныя іх робіць якраз аўтарскае бачанне, у якім дзіцячая шчырасць і здольнасць здзіўляцца спалучаюцца з пісьменніцкім талентам адбіраць сапраўды значныя дэталі, задаваць красамоўныя пытанні, рабіць кароткія, такія трапныя заўвагі. Падкупляе яшчэ й тое, што аўтар ад пачатку прытрымліваецца прынцыпу роўнасці: распавядае свае гісторыі так, быццам зноў вярнуўся ў дзіцячы ўзрост. Ён сапраўды разумее свайго чытача, і, думаецца, той ацэніць такі рэдкі талент.

Што яшчэ цікава, значнасць кожнай гісторыі надае не знешні свет, не нейкія там прыгоды ці цуды, але пачуванне самога героя. Нават казкі ў Арнольда Дыбчы маюць вельмі «празаічнае», скажам так, гучанне. Прынц і Прынцэса ў яго бедныя і не маюць іншага скарбу, акром свайго кахання. Баба-Яга, аказваецца, таксама была дзяўчынкай, праўда, не вельмі ахайнай і зусім не добрай, што й займела ўсім вядомыя наступствы. Воўк і Заяц змаглі паразумецца і абысціся без крывавай драмы дзякуючы разважлівасці і ўменню думаць. Ёсць у яго й лёгкае перайманне, хутчэй несвядомае: «Дванаццаць братоў» нагадвае пра «Дванаццаць месяцаў» Маршака, а «Што не прадаецца за грошы» — твор, які ў аснове сваёй мае тую ж ідэю, што й аповесць Джэймса Круса «Цім Талер, альбо Прададзены смех».

Бонусная частка — лічылкі і вершыкі — саступае празаічнай. І вельмі шкада, што новай прозы для дзяцей ад Арнольда Дыбчы ўжо не будзе: пісьменнік не так даўно пакінуў гэты свет.

**Наста ГРЫШЧУК**

## Мікола МЯТЛІЦКІ



***

*О, мая Беларусь, на руінах жахотнай вайны*
*Ты ўставала не раз за стагоддзі трывуча-жывучая.*
*У курганах сівых спяць бязвесна героі-сыны,*
*Праз стагоддзі цячэ ручаінаю мова пявучая.*

*Я цябе зберагу — і нашчадкам сваім перадам*
*Не разбітую ўшчэнт, на крывавых шляхах ацалелую.*
*Мне не выпала зброю сцінаць за цябе, як дзядам,*
*Цішыню тваю чуць над палямі баёў амярцвелую.*

*Дзень твой светлы тварыць спраўна выпала рупнасцю рук,*
*І паветра ўдыхаць, што не пахне ні толам, ні порахам.*
*Упівацца вясной песняй той, што над полем жаўрук*
*Заспявае не раз, не заглушаны грозлівым сполахам.*

*І далоні сагрэць над кастром, што сівы партызан*
*На гарбаціне дота развёў, юнакоў памінаючы.*
*І каўтаць па глытку старажытны заслаўскі туман,*
*Ад суровае споведзі ўласнае сэрца сцінаючы.*

*Год багата сплыло і нямала сальецца ў вякі,*
*О краіна мая, — дні мінулі жахотна-магільныя,*
*Як вярыгі вякоў, перад намі ляжаць бальшакі*
*Ад пралітай крыві, ад аселага попелу пыльныя…*

## Беларускае неба

*Ты разгарнулася над зямлёй*
*Блакітам і россыпам зорным.*
*А ўчора, запырсканае крывёй,*
*Было ад куродыму чорным.*

*Блішчэла крыжамі варожых крыл,*
*І тонамі бомбаў спадала,*
*І смужыла заравам небасхіл,*
*І ў нечых вачах прападала.*

*Працятае водгуллем кананад*
*І рознае іншае трасы,*
*Сачыла звысоку, як куля, снарад*
*Свае пракладаюць трасы.*

*О неба! Праменнага сонца святло!*
*Змяніла сваю апранаху.*
*Не верыцца нават, што ты было*
*Учора з крыві і жаху.*

*Хачу, каб дзеці маёй зямлі,*
*На захадзе сонца, на ўсходзе,*
*Бачыць блакітным цябе маглі*
*І ў гэтым пахмурым стагоддзі.*

*І ўсе наступныя вякі*
*Гараць, бы ў недасяжжы зоры,*
*Ім несказаныя радкі,*
*Ім ненапісаныя творы.*

***

*Палошаць навіны — жахлівыя зводкі:*
*Паўсюдна ліецца бязвінная кроў.*
*Век новы — і гэты на памяць кароткі —*
*Не помніць пра лёсы былых ліхвяроў.*

*О час неспакойны, драпежна-разбойны,*
*Дзе тое, каб людзі у міры жылі?*
*Дзе вокам ні кінеш — канфлікты і войны, —*
*Шумераў святыні ў руіны ляглі.*

*Крывавая дзея ці спыніцца гэта?*
*Планета сягоння палае на трэць.*
*Няўжо ён магчымы, такі канец свету,*
*Каб разам у ядзерным смерчы згарэць?*

***

*Занесла калодзеж пяском-плывуном,*
*У дзённае неба глядзіць мутным дном.*

*Ад раніцы чышчу, зліваю ваду,*
*Па сцежцы, травою забітай, іду.*

*Сцен хаціны даўняй астача-трухля.*
*Натужны, цягучы усхліп жураўля.*

*І толькі калодзеж — і зараз жывы,*
*Палошча зноў небны шматок сінявы.*

***

*О, колькі б Пушкін змог яшчэ*
*Сказаць Расіі праўды скрушнай!*
*Ды без яго час працячэ —*
*І ён забіты раўнадушна.*

***

*Выстружу лыжку*
*З ліпавай плашкі.*
*З цела бярозы —*
*Белыя шашкі.*

*З ясеня выстружу*
*Ёмкую міску,*
*З вольхі — сальніцу,*
*З хвоі — калыску.*

*З вербіны — дудку,*
*З моцнага дуба —*
*Шулы для брамы,*
*Хаце — падрубы.*

*Лёткія лыжы —*
*З клёна старога.*
*Толькі з асіны горкай —*
*Нічога.*

***

*Латока, Прыазер'е, Кумяліна.*
*Мне памятная кожная мясціна.*

*Камлістая, як толькі ўзвесці вока,*
*Шумела глуха соснамі Латока.*

*У птаства мела поўнае давер'е*
*Парослае чаротам Прыазер'е.*

*Ласёў вадзіла сцежкамі няспынна*
*Праз хмыз густы балотны Кумяліна.*

*Цяпер яны — мінулага быліна,*
*Латока, Прыазер'е, Кумяліна.*

---

## Тамара КРУЧЭНКА



## Палюта

*Звалі бабулю Палюта.*
*Тут засталася з вайны.*
*Лёс да жанчыны быў люты —*
*Дзе яе дочкі, сыны?*
*Гора каўтнуўшы багата,*
*Так і жыла адна.*
*Падлога з зямелькі, хата...*
*Быццам не мела дна.*
*Жыла, колькі бачыла сцежку,*
*Палюта ў вёсцы Брусы.*
*Складала гуркі у дзежку,*
*Выбельвала абрусы.*
*Чакала кагосьці быццам*
*Увесь свой удовін век:*
*«Спалілі дзяцей маіх фрыцы.*
*Ішоў тады чорны снег».*

## Ля Лоевай Гары

*Сяджу ў альтанцы каля клёна*
*На ўзвышшы Лоевай гары.*
*Гляджу ўлюбёна, задумлёна*
*Я на зарэчныя гаі.*
*Такая там лугоў раскоша*
*І неба вольнага прасцяг.*
*Ды бачу... як віецца гожа*
*Адтуль чырвоны родны сцяг:*
*Плывуць плыты і чаляць лодкі*
*Пад гром гарматаў франтавых.*
*О, Божа, дай крыху палёгкі:*
*Ратуй камбатаў, радавых.*
*Хай ні адзін з іх не загіне,*
*І кожны будзе ў нас Герой.*
*Цяжар вайны, бы боты, скіне*
*Вось тут, над Лоевай Гарой.*

***

*Па «Еўраоптах», бы па музеях,*
*Спажыць чым болей, ды не мастацтва...*
*А хтосьці ходзіць па Калізеі,*
*Душу гадуе, каб з ёй застацца.*
*Забіты розным паліцы крамаў,*
*Як маеш грошы — купляй чым болей.*
*Сядзіць бабулечка каля храма:*
*«Купіце бульбачку з майго поля!»*
*Век XXI-ы імчыць шалёна,*
*Машын наўкола — куды там пешшу!*
*Нібыта кожны з нас у палоне*
*Сваіх набыткаў, не быць каб пешкай.*

## У Лісках

*Адгэтуль шлях да Бабчына няблізкі,*
*Ды прыняла ўсіх іх, як сваіх*
*На рэчцы Ведрыч вёска з назвай Лíскі,*
*Бярозавыя спеўныя гаі.*
*І вырасла прыгожая тут вулка,*
*Сталелі дзеці, ўнукі падраслі,*
*А ў снах бацькоўскіх — бабчынскія згукі,*
*Грыбовішчы, ігрушы, карасі...*
*У Лісках я ўжо гадоў за дваццаць...*
*Ці дачакаю сёлета жніва?*
*А сны пра Бабчын увесь час мне сняцца,*
*Здаецца, што нідзе і не жыла.*
*Казала бабка, вырваная з корнем,*
*Калі пачаўся ядзерны хаўрус...*
*Бывае, гэткая туга агорне...*
*Няма цяжэй за настальгіі груз.*

***

**Юрыю Максіменку**

*Была на свеце вёска Гдзень,*
*Дзе быў і вечар, быў і дзень...*
*Па-руску чуецца: "Ты где?»*
*Чарнобыля блукае цень.*
*І на расстайне вярсце*
*Цяпер адзін быльнёг расце.*
*Ды сэрца зойдзецца ад болю,*
*Які нічым ты не спатоліш:*
*Жыве пад небам вёска Гдзень,*
*Цвітуць сады, і чмель гудзе,*
*Хлапчук ідзе дамоў на Юр'я,*
*І кліча яго мама: «Юра!»*
*А ён — рамантык і паэт —*
*Складае новы свой санет,*
*Любуецца вясновай вёскай,*
*Збірае ў прыгаршчы пялёсткі...*
*Жыве ў душы паэта Гдзень!*

## Глеб ГАНЧАРОЎ



## Падарожжа

*Замыкаючы ў кола завілісты шлях,*
*Што пятляе зайцом між цяснін і палеткаў,*
*Я прылёг адпачыць на сівых кавылях,*
*Асцюкамі мне ў сэрца нацэленых метка.*

*Апускалася сонца ў бясконцы туман,*
*Які поўз па зямлі, што пражэрлівы вусень,*
*Выкрадаўшы цішком, як дурны клептаман,*
*Краявіды і шчасце маёй Беларусі.*

*Я блукаў па зямлі, нібы жыд Агасфер,*
*Разбіраў на цагліны руіны старыя*
*Ды чакаў, як паўстане з прасторавых сфер*
*Мне насустрэч беларуская дзева Марыя.*

*Праз курумы вякоў, камняспадаў гады*
*Мяне гордасць вяла ў ганарлівай спакусе,*
*Каб у іншых краінах знайсці назаўжды*
*Харaство і каханне для ўсёй Беларусі.*

*На далёкім абрыве я зняў бáлівар,*
*Дзе сірэны над морам гамзалі рулады;*
*Там прыгожай Алены прывабліва твар*
*Узыходзіў распусна ў нябёсах Элады.*

*Папялістаю хваляй разбэшчаны вал*
*Напаўзаў на ўзбярэжжа ва ўпартым прымусе:*
*І ад юраў ды яраў здзімаў мяне шквал*
*У таемную далеч дзеля Беларусі.*

*Валачыў у нябыт, вырываў карані*
*Ураган-паляўнічы, падобна здабычы,*
*Калі енчылі, быццам па любай радні,*
*Італійскія душы пра скон Беатрычэ.*

*Я адмовіўся слухаць бязвыхадны плач,*
*Паглядаць, як ляжыць у жалобным бурнусе*
*Маладая дзяўчына, а вецер-ліхач*
*Іннаходцам імчаўся ад хат Беларусі.*

*Лістапад асядлаў ветравога каня,*
*Рассыпаўшы лістотай пажухлыя сольда*
*Па-над Францыяй, смажанай, нібы ягня,*
*На прадажніцкім шлюбе бялявай Ізольды.*

*Здрада сэрца калола, што востры клінок,*
*Выскалялася воўкам, шчыпала, як гусі,*
*Толькі здрады такой пажадаць я не мог*
*Ані лёсу свайму, ні сваёй Беларусі.*

*І няясна таксама, чаго ж я жадаў*
*На германскіх гасцінцах, дзе, готыкай скрыты,*
*Мефістофель наўмысна праз Фаўста ўкладаў*
*Прысяганні пякельныя ў слых Маргарыты.*

*Не хацеў я прывесці з сабой Сатану*
*Ды ягоную хеўру ў разгульным хаўрусе,*
*Што раздвоеным джалам хлябтае вайну.*
*Не хацеў я вайны на зямлі Беларусі.*

*А таму з тых мясцін я імкліва пабег,*
*Але раптам спыніўся ва ўзлёце аргана,*
*Да якога на Польшчу злятала, бы снег,*
*У анёльскай фаце Асьвяцымская Ганна.*

*Беспрытульным тулягам маленні імшы*
*Слухаў я, сумаваўшы ў задумлівай скрусе,*
*Бо вандроўкі маёй неспакойнай душы*
*Не знайшлі суцяшальніцы для Беларусі.*

*Я глядзеў з кавылёў, як сузорным кастром*
*Палымнеюць свяцілы, нібы сердалікі,*
*І ў бязмежным надхмар'і шаўковым шатром*
*Сцераглі Беларусь Валасы Веранікі.*



Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ

# Жыў сабе на свеце вожык

*Апавяданне*

Калі староннія людзі даведваюцца, што ты крэмзаеш паперу, у іх звычайна абуджаецца дух эксперыментатара. Ці нават інквізітара. Так, мая ўніверсітэцкая аднагрупніца неяк, зацiснуўшы ў кут, сагнала з мяне сем патоў пытаннямі кшталту:

— А ты што, сама пішаш?

— Што, проста ўсё сама пішаш?

— І вершы?

— А як ты гэта пішаш?

— І такі праўда сама?

Падазраю, што яна чакала грандыёзнага выкрыцця і вельмі расчаравалася ўва мне, калі гэтага самага выкрыцця не адбылося. Ні табе літаратурных «неграў», нічога цікавага. Заўсёды сумна, калі не апраўдваеш чаканняў, таму цяпер на інквізітарскія пытанні я звычайна адказваю так:

— Канечне, не. Знайшлі дурніцу.

— У мяне ў падстрэшшы пяць чалавек і адзін ундэрвуд для гэтых мэт замкнутыя і прыкаваныя да батарэі.

— А вершы піша спецыяльная хакерская праграма.

І адразу становіцца ціха, ясна, празрыста. Задаволеныя эксперыментатары паразумела хітаюць галовамі, і з імі ўжо можна весці гаворку пра справу.

Будзённая, простая праўда — пра самую звычайную працу над тэкстам і над сабой — іх, вядома, не цікавіць.

Толькі мая маленькая сяброўка, маладзейшая за мяне гадоў на дваццаць і пры гэтым чалавек прыроджана інтэлігентны і далікатны, адараваўшыся ад альбома, дзе мы разам малявалі русалку, задала адзінае правільнае, як мне падаецца, пытанне.

Яна спытала:

— А ты калі пачала выдумляць?

А выдумляць гісторыі мне падабалася з самага маленства. Выдумляць на хаду, бессаромна змешваючы пабачаныя за кароткае жыццё мульфільмы, прачытаныя кніжкі ды ўрыўкі размоў дарослых гасцей. Часам гэта адбывалася амаль незалежна ад мяне, проста прарастала скрозь, быццам маладзенькае дрэўца. Выдуманымі, прарошчанымі гісторыямі хацелася дзяліцца — бо нашто ж яны трэба, калі няма каму расказаць, няма каго здзівіць ды парадаваць?

Аўдыторыя была вялікая і не дужа патрабавальная — тубыльцы з двара пад рудой шматпавярхоўкай, ад чатырох гадоў да дванаццаці. Тубыльцам (прынамсі, большасці) надзвычай падабалася пужацца, і дзеля слухачоў я, як любы адказны аўтар, вусцішы паддавала, толькі папісквалі.

З гэтым папiскваннем, уласна, звязаны першы крытычны водгук на маю творчасць. А менавіта — раз'юшаная мама аднаго з празмерна ўражаных тубыльцаў пасля неспакойнай ночы, азмрочанай сапсаванай бялізнай, знайшла мяне ў двары. Рэцэнзія яе была сцiслай і недвухсэнсоўнай: калі я, маленькая паскудніца, не пакіну пужаць бедных дробных дзетак, гэта самым непасрэдным чынам адаб'ецца на маёй пятай кропцы.

Аргумент быў жалезны і не мог не накласці адбітак на ўсю маю далейшую творчасць. Цяпер мне нават думаецца, што любы крытычны артыкул, дзе на ўзбраенне ўзятая падобная аргументацыя, абавязкова дойдзе да аўтара і, верагодна, значна павысіць якасць яговых твораў.

Імпэт да стварэння ўласных гісторый, нягледзячы на ўсіх ваяўнічых мамак і бабцяў з майго двара (і іхнія «аргументы»), не пакінуў мяне і ў школе. Толькі-толькі пазнаёміўшыся з аднакласнікамі, я прафесійным вокам акінула будынак дзіцячага садочка, дзе размясцілі першагодак, і ацаніла густы сваіх новых слухачоў. Праз тыдзень разгубленыя бацькі і настаўніца дзівіліся, чаму дваццаць дзевяць зараваных першакласнікаў як адзін перакананыя, быццам на месцы дзіцячага садка калісь былі могілкі, а па будынку дасюль ходзяць прывіды, якія хапаюць занадта гарэзлівых. Трыццатай (і адзінаю, хто ўночы спаў спакойна) была я.

Клас мне, трэба сказаць, патрапіўся досыць творчы. Выпускалі на двайных лістках, выдраных са сшыткаў, напісаныя ад рукі газеткі. Ледзь не кожны быў сам сабе рэдактарам і, высунуўшы ад стараннасці язык, штовечар перапісваў новы нумар у дваццаці — дваццаці пяці экзэмплярах. Газеткамі абменьваліся, пхалі адзін аднаму ў шафкі, клалі на парты. Некаторыя не надта сумленныя рэдактары нават, не спытаўшыся, капіравалі чужыя допісы ў сваіх выданнях. І пасля атрымлівалі кухталёў ад раззлаваных канкурэнтаў: газетная справа — рэч жорсткая.

Слава першых паэтаў амаль адразу (і трывала) замацавалася за маленькімі аўтаркамі верша-віншавання да восьмага сакавіка. Верш той, як зараз помню, мяне дужа ўразіў, таму што адно чатырохрадкоўе дасюль жыве ў маёй памяці:

*У сакавіку ёсць свята мам,*
*Ідзе такая вестка.*
*Дарункі дораць толькі нам*
*ды жаніхі нявестам.*

Пасля таго як настаўніца не без гонару прачытала верш усяму класу некалькі разоў, я многа і напружана думала. Напрыклад, калі сакавіцкае свята — гэта свята мам, то хто такія «мы» ў тэксце? Мамы? Але ж гэта іх трэба віншаваць, а так яны нібыта віншуюць самі сябе? Апрача таго, я ў свае шэсць год ведала дакладна: дзеці заводзяцца ад шлюбу. Таму нявесты, якім жаніхі ў гэты дзень мусяць дарыць падарункі, мамамі апрыёры не з'яўляюцца — хіба што ў аддаленай перспектыве. То іх, атрымліваецца, віншуюць за патэнцыяльнае мацярынства? І чаму, у такім выпадку, жаніхі абавязаныя віншаваць не сваіх уласных мам, а нявест? Дзе справядлівасць?

Загадка сакавіцкага чатырохрадкоўя мучыла і раздзірала душу з тыдзень. Поўны пакут і трывожных сненняў тыдзень. Зразумеўшы, што сваімі сіламі мне з такой тытанічнай задачай не справіцца, я звярнулася непасрэдна да вытокаў — маленькіх аўтарак, маіх аднакласніц Ганькі і Жэні. Тыя, акругліўшы вочы, патлумачылі спрэчныя моманты так:

— Каб рыфма была!..

Адказ мяне, праўда, ніколькі не суцешыў і не супакоіў. З іншага боку, вядома, што сапраўдная паэзія мусіць быць загадкавай ды таямнічай. Чым болей таямніц — тым болей уражвае. І давялося адступіць перад недасяжным. Зрэшты, усё адбылося ў той самы папраўдзе чароўны час, калі паходжанне арыфметычнага знака роўнасці тлумачылі нам літаральна так:

— Адзін з матэматыкаў старажытнасці заўважыў, што, калі паміж лічбамі паставіць дзве гарызантальныя палачкі, яны становяцца роўнымі адна адной.

Пярэчанні на гэты конт не прымаліся ані настаўніцай, ані аднакласнікамі. Ад сябе дадам, што, колькі разоў я ні спрабавала паўтарыць згаданы фокус з палачкамі, ніколі не атрымоўвалася. Хітрая матэматычная магія, відаць, даецца не кожнаму.




Фота Кастуся Дробава.

Прамінуўшы мяжу восьмага года жыцця, я прыкіпела душой і сэрцам да вялікіх літаратурных форм і эпічнага напаўнення. Падазраю, што вялікую ролю тут адыграла блізкае знаёмства з Дж. Р. Р. Толкіенам і ягоным «Уладаром Пярсцёнкаў». Употайку спісваліся таўшчэзныя сшыткі, а ў гісторыі панабеглі орды эльфаў, ды гномаў, ды оркаў. Зрэшты, менавіта «Уладар» падштурхнуў мяне да міфалогіі як такой — скандынаўскай, кельцкай і славянскай. «Вялікія формы», вядома, не атрымлiваліся ані вялікімі, ані ўласна формамі, затое ў кніжнай шафе знайшлося «Слова пра паход Ігараў». Там заступаў ход сонцу ды месяцу, абрастаў ваўчынаю поўсцю і «судзіў суды» сам Усяслаў Чарадзей, да якога ў мяне дасюль захавалася самае трапяткое, амаль пяшчотнае стаўленне. Таму што, натуральна, чарадзей. Таму што — разумнік і хват. Таму што — свой.

Прыблізна ў той жа час я прачытала «След ваўкалака» Леаніда Дайнекі і трохі засмуцілася. Тамтэйшы Усяслаў у ваўка ператварацца аніяк не жадаў і ўвогуле чараваць не спяшаўся. Мусіць, быў не ў гуморы.

Затое, калі я распавядала пра яго прыяцелям з класа ці дваровым тубыльцам, Усяслаў, стаўшы ваўком, наводзіў жах на ворагаў з усіх бакоў. Ой-ёй, крычалі ворагі, уцякаючы, і плакалі, і клікалі мамак, і слёзна кляліся, што болей не будуць. А князь Усяслаў пад бледнаю поўняй, нібыта страла, ляцеў да Кіева, каб зрабіцца там самым галоўным князем.

Гэты вось момант — пра агромністага белага ваўка, які бяжыць праз цёмныя пушчы імкліва, як спушчаная з цецівы сярэбраная страла, бяжыць, абліты месяцовым святлом, — і мне, і маім слухачам надзвычайна быў даспадобы. Настолькі даспадобы, што да салодкага болю сціскала сэрца. Густы ў нас, дзяцей, тады наогул былі своеасаблівыя.

Мы падбіралі самыя вялікія сукаватыя палкі — на мячы ды лукі. Мы віслі на дрэвах, як тыя малпы, і рабілі рабаўнічыя налёты на сады ў ваколіцы. Мы ставілі шатры з коўдраў і, седзячы там, з асалодаю хрупалі з такою рызыкай здабытыя яблыкі, слівы і грушы. Мы, можа быць, і жылі ў сучасных шматпавярховых дамах, мелі ў кватэрах электрычнае асвятленне, тэлефоны, тэлевізары ды іншыя выгоды цывілізацыі, але душы нашыя былі дрымучыя, лясныя, калматыя.

Дрымучая душа настойліва патрабавала кніг. Зрэшты, гэта вядома: калі хочаш плесці хоць трошачкі цікавыя байкі, то чытанне неабходнае ледзь не болей за паветра. Я звяла кароткае знаёмства з супрацоўніцамі дзіцячых бібліятэк, што былі паблізу, цягала кніжкі дамоў і начыталася да звону ў галаве. Ганька, тая самая, што «дарункі дораць толькі нам», часта далучалася да мяне. Тэлефанавалі адна адной напярэдадні і пыталіся па-змоўніцку, не называючы ані імёнаў, ані месцаў:

— Ну што, пойдзем?

— Пойдзем!

Ішлі па вузкіх вулачках, па скверах, спрытна пераскокваючы з адной бетоннай пліткі на другую, каб не наступіць на стыкі. Навыперадкі дабягалі да бібліятэкі і разам, штурхаючыся, праглядалі кніжныя палічкі. Шукалі без асаблівай мэты — штонебудзь новае, нябачанае, корпаліся самааддана і пачувалі сябе археолагамі. Кніжкі сустракаліся самыя розныя: і замежныя дэтэктывы, і фантастыка, і — у значна больш сціплых вокладках — класіка, беларуская і руская. Некаторыя навюткія, з чысценькімі белымі старонкамі, хрусткімі, як крамяныя яблыкі. Некаторыя старыя, што называецца, зачытаныя, залюбленыя, з разламаным пераплётам, з пажоўклымі лістамі, якія ўсё спрабуюць вызваліцца, разляцецца ўспужанай чарадой птахаў. Тонкі, ледзьве ўлоўны водар кніжнага пылу — самая ўтульная рэч, якая толькі ёсць на гэтым свеце. Так я меркавала тады, так мяркую і цяпер.

Нядаўна ў «Букіністе», перабіраючы кнігі, я выпадкова разгарнула адну — старую, зацёртую, вельмі любімую некім кніжку з казкамі народаў свету. Па зямыстым лістку разбягаліся вялікія крываватыя літары, ужо трохі выцвілыя.

— Жыў сабе на свеце вожык, — старанна пісаў нехта.

Гэта быў дробны кавалачак вожыкавай сагі. Можа быць, нават старт вялікага падарожжа, поўнага прыгод. Але пакуль што вожык проста жыў — ці, дакладней, як той кот Шродзінгера, знаходзіўся ў стане нявысветленасці. Ягоная гісторыя яшчэ не прарасла, не пусціла карэнне, але ўжо бясспрэчна існавала. Сам безыменны вожык як ні круці, а ўсё-такі існаваў.

Гэта была альфа і амега, пачатак пачаткаў. Ды і, увогуле, нават фінал любой гісторыі — гэта проста пачатак новай. Штосьці заканчваецца, штосьці пачынаецца, як пісаў Анджэй Сапкоўскі. Таму сапраўдныя гісторыі, як і жыццё, не заканчваюцца ніколі.

— А ты калі пачала выдумляць? — пытае мая маленькая сяброўка. І ёй, як нікому іншаму, я заўсёды адказваю праўду. Нават калі гэтая праўда гучыць трохі па-казачнаму:

— Даўным-даўно.

# Вандроўка па нязведаным

**Трэцяя канферэнцыя міжнароднага гуманітарнага праекта «Мінская ініцыятыва», якая прайшла ў снежні, была арганізаваная Міжнародным фондам гуманітарнага супрацоўніцтва дзяржаў — удзельніц СНД. І, безумоўна, стала падзеяй у гісторыі нацыянальнакультурнага ўзаемадзеяння ўсходнеславянскіх народаў.**

А прымеркаваная канферэнцыя да выхаду альманаха маладой паэзіі «Terra poetica», які злучыў на сваіх старонках прадстаўнікоў творчай моладзі Беларусі, Украіны і Расіі. Гэта выдатная магчымасць для прадстаўнікоў трох народаў убачыць, пачуць і зразумець адзін аднаго пры няпростых знешніх абставінах.

Як распавяла ўкладальніца і адна з аўтараў украінка Леся Мудрак, назва выдання мае перадгісторыю. Пад назвай «*Terra poetica*» ва Украіне праходзіў Міжнародны паэтычны фестываль, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі 16 краін свету і вынікам якога стаў зборнік паэтычных твораў у перакладзе на англійскую мову. Так была закладзеная традыцыя, наступным складнікам якой стаў альманах усходнеславянскай паэзіі маладых аўтараў. Вялікае значэнне зборнік мае для саміх паэтаў, якія набываюць магчымасць супрацоўнічаць, перакладаць свае творы.

Знамянальна, што альманах выходзіць напярэдадні гістарычна значнага для краін — удзельніц сустрэчы юбілею. Неўзабаве ўсходнеславянскі свет будзе святкаваць пяцісотгоддзе з дня выхаду першай друкаванай кнігі, якой мы абавязаныя асветніку Францыску Скарыну. Удзельнікам падалося сімвалічным, што трэцяя «Мінская ініцыятыва» і прэзентацыя альманаха адбыліся ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

«*Terra poetica*» ўяўляе сабой выданне вялікага фармату, аздобленае ілюстратыўным матэрыялам ды здымкамі аўтараў мастацкіх тэкстаў. Зборнік мае тыраж у паўтары тысячы экзэмпляраў, што, з аднаго боку, многа, з іншага, калі ўлічыць тры краіны як яго асноўнага адрасата, — не так і шмат. Кніга адкрываецца прадмовай акадэміка, паэта і палітычнага дзеяча Украіны Барыса Алейніка, прапанаванай чытачу адразу на трох мовах — украінскай, беларускай і рускай. У альманаху ў арыгінале прадстаўленыя вершы дваццаці пяці аўтараў, прычым маладыя людзі настолькі арганічна паяднаЛіся адзін з адным на старонках выдання, што, «калі б не моўны маркер, вызначыць, хто з іх украінец, хто — расіянін, хто — беларус, было б праблематычна».

Сярод іншых у мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання — першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ігар Луцкі, экс-кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Сяргей Філатаў, экс-міністр культуры Расійскай Федэрацыі Міхаіл Швыдкой, а таксама — супрацоўнікі выдавецтваў, СМІ і Акадэміі навук Беларусі.

На прэзентацыі альманаха аўтары, прыгожыя не толькі ў сваёй маладосці, але і ў творчай адкрытасці ды смеласці, чыталі ўласныя творы. Вершы іх прымушалі задумацца над тым, што робіць паэта пазачасавым — фаварытам вечнасці. Універсальным элементам, відаць, была і застаецца зафіксаваная ў творы эмоцыя. Менавіта яна дазваляе сучаснікам і наступнікам далучыцца да агульначалавечага, універсальнага, пазачасавага ў нашым жыцці. Гартаючы старонкі «*Terra poetica*», заўважаеш, што многім з аўтараў удалося гэтую эмоцыю ўвасобіць, матэрыялізаваць у слове.

Прысутнічае гэты элемент у любоўных вершах беларускай паэткі Ніны Лістоты, аб'яднаных жаноцкасцю з яе праявамі мяккасці, клапатлівасці, самаахвярнасці («Залатой мелодыяй адроджаных струн…», «На тым беразе зімы»). Расійскі аўтар Уладзімір Казлоў дзеліцца пачуваннем «унутры кахання», пасродкам якога жанчына, здольная так шмат даваць мужчыне, пагражае яму пазбаўленнем сябе самога: «и мне страшно, что я проскочу своё "я", как нужную остановку». Па-свойму эмоцыя выяўляецца і ў вобразах, створаных украінскім паэтам Вано Кругерам, што ўзнаўляе ўражанні асобных момантаў жыцця, у якім аказваюцца непадзельна спалучанымі элементы прыроднага і тэхнічнага свету («Вітражі з метеликами на фоні радіодеталей і чебурашки / розхристаний вірш»).

Уражвае, што за маштабныя, філасофскія тэмы бяруцца маладыя людзі і часам надзвычай ярка й паспяхова іх рэалізуюць. Верш «Эвалюцыя» беларускай аўтаркі Кацярыны Ваданосавай акунае ў «глыбіню» нашай прысутнасці на планеце. Чалавек як істота паўстае бясконцым у сваіх продках і нашчадках, а каханне мужчыны і жанчыны разумеецца як магутны імпульс руху ўсяго існага. Эпічнасць падобных твораў дазваляе адчуць адзінства ўсяго, што некалі было, ёсць зараз ці яшчэ будзе ў Сусвеце:

*Я помню цябе ды сябе*
*Са скрэблам, сякерай, сахою,*
*А тысячы нашых дзяцей*
*Сяжкалі магутныя хвоі.*

Выданне альманаха твораў маладых паэтаў — падрыхтоўка глебы для з'яўлення постацей у гісторыі ўсходнеславянскай літаратуры. А магчыма, гэтыя постаці ўжо прысутнічаюць на старонках «*Terra poetica*» сярод шматлікіх імёнаў украінскіх паэтаў?.. На гэтае пытанне, як звычайна бывае, нам адкажа час.

**Наталля БАХАНОВІЧ**




# З УРАЖАННЯМІ — І БЕЗ



**Калі разважаюць пра будучыню літаратуры, на ўвазе маюць адно маладых шматабяцальных аўтараў, а вось маладых шматабяцальных чытач як катэгорыя ўвогуле не існуе. А дарма: якраз чытач, пра якога саманадзейна забываюцца крытыкі, а часам і самі пісьменнікі, шмат у чым вызначае літпрацэс. Мінулы Дзень студэнта — фармальная нагода звярнуцца па меркаванне пра «сучбелліт» да чытацкай моладзі. Але, па вялікім рахунку, такія апытанні было б карысна ладзіць часцей, чым раз на год...**

**Марыя Бурцава, студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў:**

— Апошняя прачытаная беларуская кніга — «Смута» Андрэя Федарэнкі. Было цікава і месцамі смешна. Аўтар піша пра тое, аб чым марыць кожны школьнік: вучні выбіраюць самі сабе прадметы, іх працяг, нават настаўнікаў могуць звальняць! Гэта нагадвае антыўтопію, і было б цікава пачытаць кнігу, а не тыя «12 фантазій». То бок, тэму, лічу, можна было б развіць.

**Вераніка Браім, студэнтка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта:**

— Вельмі падабаюцца кнігі Карыны Дзёмінай, у прыватнасці «Прыўкрасная Ізольда» — любоўна-фантастычны раман, выдадзены ў 2013 годзе. У 2014-м з'явіліся кнігі «Нявеста» і «Чорны Янгар», іх я таксама чытала. У кнігах Карыны Дзёмінай усё вельмі незвычайна ў параўнанні з тым, што я чытала з сучаснай літаратуры. Яна беларускі аўтар, але піша, на жаль, па-руску. Зрэшты, наўрад ці яе кнігі чыталі б на беларускай мове. Цяпер людзі ўвогуле чытаюць мала, а на беларускай мове — яшчэ менш.

**Павел Аксіновіч, студэнт Інстытута журналістыкі БДУ:**

— З беларускай літаратурай часцей «сустракаюся», калі вывучаў яе ва ўніверсітэце. Цяпер жа чытаю няшмат, у асноўным публіцыстыку, крыху сучаснай літаратуры, таго ж Адама Глобуса. Але часта трапляю на паэтычныя вечарыны, дзе выступаюць нашыя паэты-сучаснікі. З улюбёных магу вылучыць Андрэя Хадановіча, Віктара Жыбуля і абавязкова Віктара Лупасіна, які, на жаль, цяпер амаль не выступае як паэт. Дужа падабаецца лірыка ў музыцы, тут магу вылучыць Рэспубліку Паліну, Лявона Вольскага (вельмі спадабаўся ягоны апошні альбом), Сяргея Башлыкевіча.

**Аліса Мігаль, рамесніца:**

— Вельмі падабаецца цыкл пра ведзьм «Ведзьміны байкі» Вольгі Грамыкі. Хай сабе сюжэт даволі распаўсюджаны, у галоўнай гераіне Вольсе мне хацелася бачыць сябе. Таму было цікава даведацца, якія прыгоды чакаюць яе далей, як складзецца іх гісторыя з Ленам, што будзе з чароўным светам наогул.

**Ганна Такушэвіч, студэнтка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта:**

— Нядаўна пазнаёмілася з творамі Наталлі Ігнаценка. Асабліва спадабаліся «Гісторыя пра Вару і Дубавёнка» і «Казка пра Цімку і Кузьку». Гэта гісторыі для дзяцей, але яны лёгкія, вясёлыя і цікавыя. «Гісторыя пра Вару і Дубавёнка» — прыклад беражлівых адносін да прыроды, а «Казка пра Цімку і Кузьку» вучыць цаніць сяброў.

**Дар'я Рафеенка, студэнтка Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Пушкіна:**

— Спадабалася кніга «Віня Пых» у перакладзе Віталя Воранава, выдадзеная ў 2007 годзе. «Віні Пуха» люблю з дзяцінства, таму мне было цікава прачытаць пра яго прыгоды на беларускай мове. Кніга простая, зразумелая. Асабліва гэта важна для дзяцей, якія дрэнна ці наогул не гавораць па-беларуску. Шмат цудоўных малюнкаў, старонкі светла-жоўтыя, але, як ні дзіўна, чытаць на такім фоне яшчэ цікавей.

**Сяргей Шаматульскі, навучэнец Школы маладога пісьменніка:**

— З сучаснай беларускай літаратуры, асабліва за апошні час, вылучаюцца для мяне дзве фігуры — Таня Скарынкіна з яе кнігай эсэ «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі» і Кірыл Стасельска з яго раманам «Маргіналіс». Калі казаць пра Таню, то яе кніга вельмі непадобная да таго, што сёння прынята разумець пад эсэ і друкаваным словам Беларусі. Гэта нешта іншае, адмысловае. Глупствам будзе сказаць, аднак для мяне яна нашая Петрушэўская. Так, розніца між імі вялізная. І ніхто з іх не лепшы. І не горшы — справа ў іншым. Гэтыя тэксты споўненыя будзённасці і простага жыцця. Мяжа «для народа» і «пра народ», якую не скарыстаў адно лянівы, вывернутая наадварот — то новая рэч. Ты верыш кожнай літары. Скарынкіна паказвае, што так, правінцыя, так, куры... Але й мастацтва! І побыт, просты побыт асляпляе гэтак, што цьмянымі робяцца ўсе фільмы і музычныя кампазіцыі, уплеценыя ў цела кнігі. Кантраст спрацоўвае. Там хочацца жыць. У гэта хочацца верыць — бо праўда. Кніга Кірыла вельмі свежая і таму цікавая. Як на мяне, дык усе размовы пра вялікую колькасць персанажаў — глупства і бравада. Нават шкада аўтара, што за ўсім пабачылі толькі лічбы. І хоць бы дзеля абвяржэння распіяраных фактаў «пра» — трэба чытаць тэкст.

**Сяргей Вясёлка, студэнт факультэта радыёфізікі і камп'ютарных тэхналогій БДУ:**

— Ад сучаснай літаратуры ўражанняў ніякіх. Не чытаю: па-першае, няма асяроддзя, які мог бы нешта параіць; па-другое, у кнігарнях, якія наведваю, няма й намёку на літаратуру на беларускай мове. Не ведаю ніводнага аўтара, ну хіба толькі Адам Глобус. Але нічога ягонага не чытаў, ведаю толькі, што піша. Беларускую літаратуру бачыў толькі ў кнігарні «Ў». І ўсё! Няма распаўсюджвання літаратуры... Усё знікла ўнікуды. А ў дзяцінстве любіў чытаць Янку Маўра, у школьныя гады — «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча.

**Матвей Качаткоў, лагіст:**

— Кнігі ў апошні час чытаю нячаста, у тым ліку беларускіх аўтараў. Напэўна, апошняя сапраўды запамінальная беларуская кніга — раман Віктара Марціновіча «Сфагнум» пра абсурдна-таямнічыя прыгоды трох «гопнікаватых» маладых людзей. Здавалася б, мястэчковы па змесце, ён не быў такім па сутнасці, за што Марціновічу вялікі дзякуй. Наогул, гэтая кніга была адной з нямногіх спробаў зрабіць прадукт (з беларускім каларытам), запатрабаваны за межамі краіны, тым і запомнілася, акрамя таго, што яна вясёлая і стыльна напісаная. Вельмі падабаюцца некаторыя вершы Хадановіча, асабліва часоў зборніка «Несымэтрычныя сны». Дзеля справядлівасці, тварэнні большасці беларускіх паэтаў не выклікаюць у мяне нічога, акрамя зубнога болю. І, вядома, Быкаў: ён як ніхто разумеў гэтае жыццё!

**Дзяніс Кучынскі, магістрант праграмы «Дыпламатыя» Універсітэта Вітаўта Вялікага (Літва):**

— Лічу, што мы зараз жывём у эпоху геніяльных аўтараў, але ў такі час і ў такім месцы, дзе рынак і прастора вельмі абмежаваныя, не кажучы пра маргіналізацыю літаратуры як з'явы. Куды ні кінь вокам — паўсюль шэраг абсалютна непаўторных людзей. У паэзіі лічу недасяжнай велічынёй творчасць Алеся Разанава, перачытваю яго рэгулярна. Сапраўдны Патрыярх.

Высока цаню перакладную паэзію Хадановіча: каб гэтак стала і якасна перакладаць, трэба быць, без сумневу, моцным паэтам. Люблю ягоныя пераклады з французскай: Апалінэр, Оскар Мілаш... З прозы імпануе дзёрзкасць Альгерда Бахарэвіча. Па-чалавечы кранае эмацыйны фон, які стварае Віктар Марціновіч. Люблю кароткія замалёўкі і вершы Адама Глобуса, чакаю ягонай кнігі хайку — яны ў яго вельмі жывыя, сучасныя, і, як сапраўдныя хайку, загадкавыя і ў чымсьці меланхалічныя. Лепш за Сяргея Харэўскага пра мастацтва наўрад ці хто напіша, але я б раіў прачытаць ягонае эсэ не толькі на мастацкую тэматыку, да прыкладу, «Прамоўленае» і «ПраЧутае». Што да эсэістыкі, то вельмі шаную Ігара Бабкова за неардынарна глыбокую археалогію беларусаў, нашага асяроддзя і топасу. З рускамоўных беларускіх аўтараў, перш за ўсё, адзначу паэтычны геній Дзмітрыя Строцава — таксама часта перачытваю ягоныя вершы-танцы. З прозы падабаецца стылістыка Сашы Філіпенкі.

**Падрыхтавалі Марыя ШЧЫПАНАВА, Наста ГРЫШЧУК**

# Ад Камісіі па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

**Камісія па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі разгледзела матэрыялы па работах, творах і кандыдатах, якія вылучаны на саісканне прафсаюзных прэмій 2017 года, і паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне прэмій дапушчаны:**

**I. За творы прозы, паэзіі і драматургіі (адна прэмія):**

1. **Уладзімір Гаўрыловіч** — за кнігі «Анёлак мой, анёлак...» (Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014) і «Цяпло маладзіка» (Мінск: Беларускі Дом друку, 2013).

2. **Аляксандр Каляда** — за зборнік вершаў «Берега» (Мазыр: КПУП «Колор», 2012).

3. **Аляксандр Карлюкевіч** — за кнігі «Братэрства» (Мінск: Выдавецкі дом «Звязда», 2014) і «Краязнаўчы рэсурс у вывучэнні беларускай літаратуры» (Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2015).

4. **Сцяпан Лаўшук** — за кнігу «Праз церніі да брамы неўміручасці: Кандрат Крапіва і беларуская драматургія» (Мінск: Выдавецкі дом «Беларуская навука», 2016).

5. **Віктар Шніп** — за кнігу «Заўтра была адліга: дзённікавы раман паэта» (Мінск: Мастацкая літаратура, 2015).

**II. За музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць (адна прэмія):**

1. **Ансамбль песні і танца «Медуніца» УК «Магілёўская абласная філармонія»** — за канцэртныя праграмы апошніх гадоў.

2. **Алег Залётнеў** (аўтар музыкі), **Сяргей Макарэй** (аўтар лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык) і **Рыгор Сарока** (галоўны дырыжор і музычны кіраўнік) — за стварэнне рамантычнай оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт» (2013 г.).

3. **Леанід Захлеўны** — за стварэнне цыкла песень «Запаветны бераг» на словы беларускіх паэтаў (2009 — 2016 гг.).

4. **Канстанцін Яськоў** (кампазітар), **Валерый Палеў** (харэограф) і **Людміла Ражкова** (аўтар лібрэта і кіраўнік праекта) — за стварэнне харавой сімфоніі «Вясна» для змешанага народнага хору і аркестра (2015 г.).

**III. За работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва (адна прэмія):**

1. **Дзмітрый Багаслаўскі** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Наталля Анішчанка, Аляксандр Пашкевіч** і **Любоў Пукіта** (выканаўцы роляў) — за стварэнне спектакля «Саша, вынесі смецце» па п'есе Н. Вараржбіт у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры (люты 2016 г.).

2. **Уладзімір Галак** — мастацкі кіраўнік Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў — за стварэнне і арганізацыю ў 2013 — 2016 гадах мінскіх форумаў вулічных тэатраў.

3. **Аляксандр Гарцуеў** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Таццяна Мархель** і **Галіна Чарнабаева** (выканаўцы галоўнай ролі) — за стварэнне спектакля «Тры Жызэлі» па п'есе А. Курэйчыка ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (2013 г.).

4. **Наталля Дзяменцьева** — артыст-вакаліст — за выкананне галоўнай ролі ў аперэце П. Абрахама «Баль у Савоі» ў Беларускім дзяржаўным музычным тэатры (красавік 2016 г.).

5. **Валянціна Еранькова** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Леанід Еранькоў** (аўтар музычнай канцэпцыі) і **Сяргей Жбанкоў** (выканаўца галоўнай ролі) — за стварэнне на высокім мастацкім узроўні спектакля «Пясняр» у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя М. Горкага (2014 г.).

6. **Ніна Обухава** (рэжысёр-пастаноўшчык), **Наталля Аладка, Георгій Лойка** і **Раман Салаўёў** (выканаўцы галоўных роляў) — за стварэнне спектакля «Цень думкі нашай...» паводле драмы «Цені» Ф. Аляхновіча ў Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа (сакавік 2016 г.).

7. **Зінаіда Пасюціна** (рэжысёр-пастаноўшчык спектакля) — за пастаноўку спектакля «Завтра была война» паводле аповесці Б. Васільева ў тэатры-студыі «7 ПАВЕРХ» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (2013 г.).

**IV. За творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва (адна прэмія):**

1. **Тамара Васюк** і **Ала Непачаловіч** — дацэнты кафедры народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва УА «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў» — за ажыццяўленне сумеснага творчага арт-праекта «Узоры роднай зямлі»: серыя дэкаратыўных кампазіцый керамікі і ткацтва (2016 г.).

2. **Юрый Герасімовіч** — мастак аддзела выставак установы «Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны» — за стварэнне дыярамы «Танкавы таран» у Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (2016 г.).

3. **Аляксандр Прохараў** — скульптар, дэкан мастацкага факультэта УА «Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў» — за стварэнне помніка князю Ізяславу ў г. Заслаўе і скульптуры «Гарадскія шалі» на пл. Свабоды ў г. Мінску (2014 г.).

4. **Рыта Цімохава** — мастак-графік, выкладчык УА «Мінская дзяржаўная гімназія-каледж мастацтваў» — за мастацкае афармленне і ілюстрацыі да кніг для дзяцей «Казкі сіняй падушкі» (2013 г.), «Падарунак ад Дзеда Мароза» (2014 г.) і «Ноч Жука-Светлячка» (2016 г.).

**V. За лепшы твор аб прафсаюзах (адна прэмія):**

1. **Іван Вазміцель** і **Іван Мандрык** — за кнігу «Очерки истории профсоюзов Витебщины» (Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2015).

2. **Надзея Грыб** і **Ксенія Суша** — за кнігу «Связь времен. 1945 — 2015» (Мінск: Беловагрупп, 2015 г.).

3. **Ганна Кароткіна** (аўтар музыкі) і **Валянціна Калатоўкіна** (аўтар слоў) — настаўнікі ДУА «Гімназія № 17 г. Мінска» — за напісанне «Гимна профсоюза учителей» (2015 г.).

**VI. За актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных (адна прэмія):**

1. **Алена Выхаванец**, дырэктар Палаца культуры ААТ «Нафтан», г. Наваполацк.

2. **Юрый Кастэнка**, старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі ААТ «Бярозаўскі сыраробны камбінат».

**VII. За выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці (адна прэмія):**

1. **Заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь тэатр танца «Прэм'ер-Спонайд»** культурна-спартыўнага комплексу ААТ «Полацк-Шкловалакно».

2. **Народны ансамбль народных інструментаў «Лірнікі»** ДУА «Гарадзішчанская дзіцячая школа мастацтваў», г.п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

3. **Народны ансамбль песні і танца «Каларыт»** філіяла «Ваўкавыскія электрычныя сеткі» РУП «Гроднаэнерга», г. Ваўкавыск Гродзенскай вобласці.

4. **Народны ансамбль песні і танца «Яблынька»** ДУК «Гарадоцкі гарадскі Дом культуры», г. Гарадок Віцебскай вобласці.

5. **Узорны ансамбль танца «"Шоу-данс" Асарці»** Палаца культуры «Нафтавік» РУП «ВА "Беларуснафта"», г. Рэчыца.

6. **Фальклорны аматарскі ансамбль «Грамніцы»** УА «Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў», г. Мінск.

**VIII. У галіне журналістыкі (адна прэмія):**

1. **Аліцыя Пінюта** — за цыкл публікацый «Социальное партнерство во благо человека труда», апублікаваны ў газетах «БЕЛАРУС-МТЗ ОБОЗРЕНИЕ» ў 2012 — 2016 гг. і «Вестник профсоюза «БЕЛПРОФМАШ» у 2016 г.

2. **Аляксандр Юдзіцкі** — за кнігі «Лица. Судьба семьи в судьбе страны: документальный роман» (Брест: Альтернатива, 2011 г.) і «Беседа. "Встречи" и "Лица": Автографы» (Брест: ОАО «Брестская типография», 2015 г.).

Камісія звяртаецца з просьбай да творчых саюзаў, культурна-асветных устаноў, прафсаюзных і грамадскіх арганізацый, калектываў прадпрыемстваў і навучальных устаноў, грамадзян рэспублікі правесці абмеркаванне кандыдатур на саісканне прэмій Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2017 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці.

Вашы прапановы, водгукі, заўвагі просім накіраваць да 1 сакавіка 2017 г. на адрас: *Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Камісія па прэміях ФПБ (пакой 915), пр-т Пераможцаў, 21, 220126, г. Мінск, тэл. 203 95 83.*

*Нататкі чытача*

# Закаханыя ў Брэст

**Першы дзень Новага года пачаўся для мяне з кнігі: незвычайнае ілюстраванае выданне пад назвай «Любимый город» толькі што выйшла з «Брэсцкай друкарні» тыражом у 300 асобнікаў. На вокладцы пазначана: «Да 1000-годдзя Брэста». А дата гэтая будзе адзначацца летам бягучага года.**




Выданне — не фарматная кніга, але сапраўдны літаратурны альбом, які склалі 25 рэпрадукцый карцін Ігара Раманчука і столькі ж вершаваных прысвячэнняў да кожнай з карцін за аўтарствам Таццяны Шульга.

Хто сказаў, што ў наш час не адбываюцца цуды?.. Трэба толькі навучыцца адчуваць іх, бачыць, так, як умеюць гэта рабіць брэсцкі мастак Ігар Раманчук і паэтэса Таццяна Шульга з-пад Урала, з далёкага горада Воткінска — радзімы Чайкоўскага. Лёс паспрыяў Таццяне патрапіць у горад над Бугам, палюбіць яго з першага погляду і застацца, бадай, на ўсё жыццё. Натхніцца абліччам і хараством горада, каб знайсці для свайго пачуцця паэтычныя словы. З цікавасцю разглядаеш работы Раманчука, пазнаеш адлюстраваныя ў іх брэсцкія вулачкі, знаёмыя мясціны, ловіш імгненні, што ўвекавечыў мастак.

Мабыць, ніхто з брэсцкіх мастакоў не напісаў столькі карцін, прысвечаных брэсцкім мясцінам, як Ігар Раманчук; ніхто з паэтаў не прысвяціў столькі вершаў роднаму Брэсту, як Таццяна Шульга. Кожны па-свойму адчуў і апеў яго незвычайную атмасферу: Ігар Аляксеевіч з дапамогай фарбаў перадаў вабную, няўлоўную гарадскую красу ў розныя пары года і сутак, у рознае надвор'е; Таццяна Юр'еўна майстэрствам слова падкрэсліла кожны подых прыроды, кожную дробязь, створаную пэндзлем і душой таленавітага мастака. Дзякуючы светлым творчым душам горад нават у непагадзь бачыцца нам асабліва казачным, святочным, урачыстым.

Так паэтэса і мастак вучаць заўважаць, разумець і любіць хараство прыроды, радзімы. Літаратура і мастацтва — найлепшыя сродкі, з дапамогай якіх можна найбольш дакладна выказаць пачуцці душы, жаданне сэрца, найбольш выразна і ярка адлюстраваць дарагія вобразы. Цікавым і ўдалым атрымаўся альбомны праект, падрыхтаваны ў падарунак брастаўчанам і гораду да яго 1000-годдзя.

**Надзея ПАРЧУК**

# З першага кадра

## Стаўленне да фотамастацтва і творчы імідж Мікалая Батвінніка

**Існуе меркаванне, што прафесія фотамастака губляе пазіцыі: фатографам можа быць кожны другі, хто з'яўляецца ўладальнікам дарагога фотаапарата. А як жа талент, адукацыя, густ? Мікалай Батвіннік, знакаміты сваімі 3D-фатаграфіямі, падзяліўся разважаннямі наконт стаўлення гледача да сучаснага фотамастацтва і патлумачыў, як імідж творцы можа ўплываць на прафесійную дзейнасць.**

**— Мікалай, з прычыны хуткага развіцця тэхнікі ўсё часцей фатографамі пачынаюць называць сябе людзі, якія не маюць спецыяльнай адукацыі. На ваш погляд, фатаграфія — тэхніка ці ўсё ж мастацтва і майстэрства?**

— Людзей, якія звязаны з фотамастацтвам, я падзяляю на фатографаў і мастакоў. Для мастака важна разумець, як адлюстраваць карціну, фатаграфію, а фатографу важная тэхніка, добры аб'ектыў, абсталяванне. Вы маеце рацыю: сёння ў нас практычна кожны «фатограф», таму што ёсць у тэлефоне камера! Але ж з асабістага досведу разумею: тэхніка не выконвае настолькі вялікую ролю, якую ёй надаюць. Самае галоўнае для фатографа — рукі.

**— Вы больш як трыццаць гадоў займаецеся фатаграфіяй. Ці змянілася за гэты час ваша стаўленне да справы?**

— Тое, што фатаграфія — справа жыцця, я часам сумняваўся. Я ўвогуле прыйшоў у фатаграфію з-за цікавасці да хіміі. Раней, калі займаўся іншымі справамі, мне даводзілася вяртацца да фатаграфіі, я адчуваў задавальненне, здавалася, што ўдыхаю новае паветра. Зараз, калі фатаграфія — мая прафесія, часам атрымліваю стрэс. Калі фатаграфуеш, засяроджваешся на аб'екце, губляеш шмат энергіі, асабліва калі здымаеш чалавека. Пасля здымкаў партрэтаў часам у сябе прыйсці не магу. Калі мне скажуць здымацць цэлы дзень, маральна не змагу. Таму пачаў спрабаваць займацца іншымі кірункамі. Сёння актыўна ствараю калажы, займаюся здымкамі кліпаў і відэаартам. У планах зняць поўнаметражны фільм.

Цяпер я не хаджу з фотаапаратам увесь час. Момант, калі раблю фота, здараецца неяк імгненна. Калі ўбачу нешта арыгінальнае, здымаю, але спецыяльна не хаджу, не шукаю сюжэтаў, вобразаў. Ёсць фатографы, якія ўвесь дзень могуць фатаграфаваць птушак, я так не раблю. Фатограф жа, нібыта паляўнічы, бачыць мэту за вярсту. Калі ствараю работу, першапачаткова разумею, што павінна атрымацца. Гэты працэс вельмі добра трэніруе плёнку: калі ў вас 36, а то і 12 кадраў — няма магчымасці разнявольвацца, трэба прымудрыцца выканаць задуму.

**— Вы займаецеся 3D-фатаграфіяй. Як наогул прыйшлі да яе? У Беларусі ж гэта практычна неразвіты кірунак...**

— Так, на маёй апошняй выстаўцы былі 3D-фотаработы, але я не працую толькі ў гэтым кірунку. На выстаўцы такі жанр фота быў неабходны для выразнасці: супастаўляліся фатаграфія 2D і 3D. Раней таксама займаўся 3D-праектам: здымаў спартсменаў на 3D-камеру. Калі пачаў апрацоўваць здымкі, мне падалося, што ў іх для 3D-глыбіня вельмі маленькая. Пачаў шукаць інфармацыю, знайшоў праграму, як можна ўзмацніць 3D-эфект. Але такога, як я хацеў, не атрымлівалася. Пачаў эксперыментаваць: узяў карцінку, пачаў выразаць малюнак у фотошопе, дзяліць яго на планы, сам разразаў, сам рабіў глыбіню 3D. Спрацавала. Але гэта толькі мой унікальны метад, бо я яго прыдумаў сам. Ён вельмі цяжкі ў выкананні: на адну карцінку трэба выдаткаваць гадзін пяць. Тое, што вы бачылі на выстаўцы «Па-за фокусам», наогул была 2D-фатаграфія, я з яе зрабіў 3D. Таму з простай фатаграфіі зрабіць 3D можна досыць лёгка, але каб разбіць яе на планы, трэба прыкласці вялікія намаганні. Ні адна камп'ютарная праграма не спрыяе такому эфекту, гэта можа зрабіць толькі мастак.

У нашай краіне плёнкага развіцця 3D-фатаграфія пакуль не атрымала. У нас модна здымаць на плёнку, хоць у іншых краінах 3D-фатаграфія развіваецца даўно.

**— У адным з вашых вядомых фотапраектаў «Тыя, хто бягуць па лязе брытвы» ўдзельнічалі такія вядомыя дзеячы беларускай культуры, як Канстанцін Селіханаў, Уладзімір Цэслер, Адам Глобус, Артур Клінаў... Ці можна казаць, што, выбіраючы для работ такіх «гучных» герояў, вы піярыце сябе?**

— На жаль, у нас зусім не прынята пра гэта казаць, але вядомыя акцёры сталі вядомымі дзякуючы рэжысёрам, аператарам. Так і тут: пытанне абсалютна не ў маім піяры, а хутчэй у піяры людзей, якіх я фатаграфаваў. У праекце яны прадстаўлены ў нязвыклым вобразе. Гэта прыцягвае. Ведаеце, калі ў нас пачнуць больш шанаваць таго ж рэжысёра або фатографа, тады толькі можна будзе казаць пра піяр людзей, якія «за кадрам». І пачне прадавацца беларускае кіно, жывапіс і, безумоўна, фатаграфія. Думаю, калі-небудзь мы да гэтага прыйдзем.



**— Ці былі сітуацыі, калі вы заставаліся незадаволены сабой як фотамастаком?**

— Я заўсёды сабой незадаволены. Калі будзеш задаволены, прафесійнага росту не атрымаецца. У мяне былі ндаўна вучні. Я навучыў іх фатаграфаваць, напэўна, прывіў разуменне фатаграфіі. Але яны ўхапілі нейкі момант — бачаць, што іх фатаграфіі «заходзяць» у сацсетках, і перасталі вучыцца: лічаць, што дасягнулі чагосьці. Але не дасягнулі — проста капіруюць тыя работы, якія мы з імі рабілі.

Як толькі чалавеку паказалі, як працаваць з тэхнікай, трэба бачыць, як гэта робяць іншыя фатографы. Калі я вучыўся — дзевяностыя гады, — інфармацыі было вельмі мала, я хадзіў у Ленінскую бібліятэку і па заходніх часопісах вучыўся, як усталёўваць асвятленне па зрэнках, спрабаваў зразумець, якой тэхнікай гэта было знята.

**— Ці заставаліся незадаволенымі людзі, якіх вы фатаграфавалі?**

— Перш чым прыйсці фатаграфавацца да нейкага чалавека, трэба паглядзець яго аўтарскі стыль, зразумець, як ён працуе. Напрыклад, я здымаю жорсткі гранж, некаторым можа не спадабацца, а іншым — наадварот. Я не буду здымаць у «цукровым» стылі, гэта проста не маё. Бывала, што і я не хацеў фатаграфаваць людзей: энергетыка не падыходзіла. Стараюся хутка зразумець чалавека, каб працаваць было камфортней.

Увогуле я незалежны ад меркавання гледача, жыву сваёй эстэтыкай. І мне здаецца, што наш глядач пакуль не выхаваны, бо можа прыйсці як на дрэнную, так і на добрую выстаўку і не знайсці ў іх адрозненняў. Або прыйсці на добрую і сказаць, што ён гэта ўжо бачыў.

**— Чаму не ствараеце фотаздымкі на сацыяльную тэматыку?**

— Для мяне ў фатаграфіі важная выразнасць кампазіцыі, асвятленне. Калі гэта працуе, то выдатна, і тады не важны жанр. Многія з мастакоў, якія маюць уяўленне пра маю творчасць, кажуць, што я эстэт. І я пагаджуся. Менавіта з-за эстэтычных пераваг не люблю сацыяльную тэматыку: адкрыеш фэйсбук, а там праз пост такога хапае. А вы паспрабуйце знайсці сярод гэтага прыгажосць…

Што тычыцца прыгажосці, то трэба не памыліцца: прыгожа можа і аматар зняць. Аднак прафесіяналу трэба стапрацэнтнае пападанне. Прафесіянал не можа на поспех спадзявацца — ён павінен усё зрабіць з першага кадра.

**— Успамінаю вашу апошнюю фотавыстаўку, яна дзялілася на некалькі частак. Адна з іх называлася «Пахавань аналагавае фота». Чаму вы ўсё ж вырашылі яго «пахаваць»?**

— Тут гаворка нават не пра пахаванне плёнкі. Я хутчэй паказаў, што аналагавая фатаграфія — гэта фетыш. Я магу ўсё тое ж самае зрабіць на лічбавую камеру, потым апрацаваць малюнак у фотошопе, і, запэўніваю, вы не зможаце адрозніць, што зроблена на плёнку, а што — не.

Хоць пераход на лічбавую фатаграфію — гэта вельмі зручна, але ёсць у ім і адмоўныя моманты. Напрыклад, усё жыццё здымаў на плёнку, а тут з'яўляецца лічбавая фатаграфія — гэта нібыта чароўны фокус. Націснуў на кнопку — імгненна атрымаў вынік. Але справа ў тым, што гэты фокус спадабаўся многім, і цяпер прафесія фатографа страціла значэнне, якое надавалася ёй гадоў пятнаццаць таму. Да яе не ставіцца сур'ёзна.

**— Імідж аўтара адыгрывае вялікую ролю ў яго творчай дзейнасці. Ці сутыкаецеся з тым, што імідж дапамагае вам быць паспяховым альбо наадварот?**

— У мяне зусім не станоўчы імідж у творчай тусоўцы. Аднак адмоўным героем сябе не лічу. Шмат каму важна бачыць мілага чалавека, а не яго прафесійную дзейнасць. Я ж не магу ўсім падабацца, але ёсць праца, якую выконваю адказна. Аднак імідж мой, бывае, выклікае складанасці ўспрымання. Я не мяккі чалавек і да людзей стаўлюся так, як яны таго заслугоўваюць. Ну і, вядома, не дазваляю сабой маніпуліраваць: ні сістэме, ні людзям. Самае, напэўна, непрыемнае, калі спрабуюць маніпуліраваць не як фатографам, а як чалавекам.

З-за іміджу ёсць праблемы з выставачным працэсам, з продажам твораў: у адну са сталічных галерэй аддаў дзве работы, яны ж павесілі там творы сяброў, а мае ў іх ляжаць, хоць я ўжо прадаваў падобныя. У такіх выпадках імідж перашкаджае, але не хачу быць фальшывым, я сумленны чалавек.

**— Пра вас кажуць, што вы чалавек правакацыйны, нават канфліктны. Што паслужыла такой славе? Ці лічыце патрэбным змагацца з гэтым меркаваннем?**

— Я адышоў ад нашай тусоўкі фатографаў, калі ў Мінску пачалі выстаўляць, на мой погляд, страшныя працы. Калісьці я прыйшоў на адну з выставак знакамітага фатографа. Там разлівалі шампанскае, а на выстаўцы экспанавалася фотаработа з выяўленнем дзяўчыны-набожчыцы. Я не змог маўчаць, падняў шум: такія рэчы недапушчальныя. Пасля гэтага выпадку пра мяне дрэнна адгукаліся, казалі, што я нічога не разумею. Тая сітуацыя каштавала мне адносін з некаторымі людзьмі, але, тым не менш, я ўпэўнены, што мы павінны думаць, што робім. Я не хацеў пра гэта маўчаць. У выніку «гучных» словаў, напэўна, і сфарміраваўся мой імідж. Але я кажу тое, што думаю. Ёсць масавае ўспрыманне, і немагчыма пераканаць людзей, што можа быць інакш.

Дарэчы, я вельмі складана стаўлюся да фатографаў, якія выязджаюць у «гарачыя» кропкі. Яны там фатаграфуюць кроў, смерць, а потым прыязджаюць і атрымліваюць узнагароды. Я не стаўлюся дрэнна да людзей, якія ствараюць рэпартажы, але не разумею практыкі даваць прызы за чужое гора. Я, канечне, не самы добры чалавек, але не хлушу...

**— Лічыце сябе таленавітым чалавекам?**

— Не лічу сябе таленавітым альбо не таленавітым. Гэта павінны вырашаць гледачы. Хоць аднаму гледачу можа здацца, што я раблю глупства, а другому спадабаецца. Калі чалавеку нецікава, то хацелася б канструктыўнай крытыкі, абгрунтавання, чаго часцей за ўсё я не назіраю. У маім выпадку многія водгукі зводзяцца да маёй асабістай характарыстыкі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# ВОЛЯ І РОЗУМ

## Беларуская драматургія: сцэнічная і гіпатэтычная




Гэты тэатр ад пачатку быў асаблівым: працаваў на стварэнне свайго нацыянальнага прадукту, актуальнага. Тады, у 90-я гады, калі гэты тэатр пачынаўся, ад яго чакалі новых тэм і тэатральных адкрыццяў: творчых эксперыментаў, іншых форм, якіх патрабаваў час. Гэтыя пошукі стварылі **Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі** пэўны імідж. І нават калі эксперыменты ішлі з творамі класікаў ці часам на падставе п'ес замежных аўтараў, перакладзеных на беларускую, інтэрпрэтавалі іх у адпаведнасці з думкамі аб Айчыне. І з надзеямі: выбухне і саё.

### …ці ўжо?

Надзеі застаюцца і зараз, але ўсё ж за апошні час само словазлучэнне «беларуская сучасная драматургія» выклікае меней скепсісу і ўсё больш цікавасці. Асабліва з улікам таго, што ў ёй ёсць з'явы і асобы, прызнаныя далёка за межамі Беларусі. Але на радзіме да іх прыглядаюцца вельмі пільна. «Мы з'яўляемся тэатрам, які сумесна з драматургамі і рэжысёрамі стварае ўласны прадукт. Гэты працэс можа пачынацца нават ад нараджэння ідэі, — гаворыць дырэктар Рэспубліканскага тэатра Беларускай драматургіі Уладзімір Карачэўскі. — Таму наш тэатр, можа, найбольш гнуткі і рухомы ў дачыненні да новых ідэй, у гэтым яго асаблівасць, пры тым, што за 25 гадоў ён набыў рысы рэпертуарнага тэатра. Але больш за 80 працэнтаў нашага цяперашняга рэпертуару — гэта беларуская драматургія, і не толькі класіка (Макаёнак, Купала ці сучасныя прызнаныя аўтары Дудараў, Дзялендзік). У нас шмат п'ес драматургаў, якія з'яўляюцца нашымі сучаснікамі, і іх творы зараз вельмі актуальныя: Багаслаўскі, Рудкоўскі, Курэйчык, Балыка». Гэтыя імёны ёсць у тэатральнай афішы. Але ці значыць, што са з'яўленнем тэатра нашы драматургі надта

### актывізаваліся?

«Яны актыўныя, ідэі прапануюць цікавыя і патрэбныя, але ёсць праблема з канчатковым варыянтам самога тэксту, — лічыць Уладзімір Карачэўскі. — Часам не хапае прафесійных навыкаў, часам — умення давесці драматургічную лінію да канца. Стварэнню драматургічных твораў трэба вучыцца, плюс нейкі досвед». Гэта пацвердзіў і конкурс п'ес, прысвечаных Францыску Скарыну, арганізаваны Рэспубліканскім тэатрам беларускай драматургіі з надзеяй атрымаць творы актуальныя, чаго вартая асоба нашага першадрукара, які, па сутнасці, паставіў інавацыі на службу асветніцтву. Паступіла больш за 30 заявак з усёй краіны, нават з США і Масквы. Трэцяя частка твораў была вартая ўвагі і пастаноўкі на сцэне тэатраў пры ўмове дапрацоўкі. Дзякуючы конкурсу ўжо рыхтуецца прэм'ера спектакля «Кар'ера доктара Раса», за якую ўзяўся мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, рэжысёр Аляксандр Гарцуеў.

Драматургі працуюць, у нас нават ёсць магчымасць выпускаць зборнікі п'ес, якія з'явіліся ў беларускай тэатральнай прасторы». Сам тэатр робіць акцэнт: а што прапануюць

### маладыя?

На базе Цэнтра сучаснай драматургіі, што створаны пры тэатры, ідзе творчая эксперыментальная праца, якая часам нагадвае сацыялагічнае ці наогул навуковае даследаванне рэчаіснасці. Больш удалыя эксперыменты потым выносяцца на вялікую пляцоўку, кшталту пастаноўкі «Мабыць». «Як дырэктар я шукаю магчымасці фінансавання праектаў цэнтра: чытак, эксперыментальных пастановак, правядзення міжнародных драматургічных лабараторый, з якіх нараджаюцца цікавыя творы. Нават калі з адной лабараторыі нарадзіцца адзін твор, варты ўвагі, гэта ўжо дасягненне. Таму што тут выпрабоўваюць сілы. Па сваіх эстэтычных густах я, можа, не ўсё прымаю, — прызнаецца Уладзімір Карачэўскі. — Але разумею, што гэта існуе як з'ява: моладзі трэба выкінуць эмоцыі. Яны адчуваюць сябе запатрабаванымі, разумеюць, што жывуць у гэтай краіне і яе прадстаўляюць. Ганаруся маладымі творцамі, якія ўжо стварылі такі феномен, як беларуская сучасная драматургія, пра што ведаюць у Францыі, Польшчы, Літве, Расіі і іншых краінах, дзе ідуць іх творы».

У 2015 годзе тэатр стаў адным з арганізатараў маладзёжнага тэатральнага форуму краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі. І зараз Міжнародная канфедэрацыя тэатральных саюзаў разглядае яго як аднаго з саюзнікаў у гэтай прасторы. Спектакль паводле Д. Багаслаўскага «Ціхі шолах сыходзячых крокаў», створаны ў супрацоўніцтве з канфедэрацыяй, быў паказаны ў Бішкеку, вядуцца перамовы, каб паказаць яго ў іншых краінах. З гэтай пастаноўкай тэатр удзельнічаў у фестывалі імя Чэхава ў Маскве. Далей ёсць, чым

### здзівіць?

Тэатр рыхтуецца да ўдзелу ў «Марткантакце» са спектаклем «Гэта ўсё яна» рэжысёра з Германіі Монікі Дабраўлянскай, разглядаюцца магчымасці паказаў у краінах Заходняй Еўропы. Вельмі няпросты спектакль паводле Стрындберга «Пелікан» у пастаноўцы Аляксандра Гарцуева ўжо ў сакавіку прадставяць на фестывалі ў Сербіі. Цяпер Кацярына Аверкава працуе над сацыяльнай драмай «Сіндром Медэі» пры прыватным інвеставанні. «У нас няма дыктатуры галоўнага рэжысёра. Ставяць спектаклі Святлана Навуменка, паспрабавалі сябе як рэжысёры артысты Вераніка Буслаева і Дзяніс Паршын, які ўвесну ўжо прадставіць камедыю. Яўген Карняг задумаў ажыццявіць у нас пластычны спектакль у супрацоўніцтве з уладальніцай расійскай "Залатой маскі" Таццянай Нерсісян. Калі мы гаворым пра сучасную драматургію, то хочацца, каб гэта было таленавіта, незвычайна, а яшчэ і актуальна… Мяняецца тэатр у свеце, з'яўляюцца новыя формы пастановак». Праз іх тэатр можа прапанаваць людзям разам пашукаць вырашэнне нейкай агульнай праблемы

### …задумацца?

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, паводле яго дырэктара, абвяргае статыстыку, згодна з якой асноўны глядач — гэта адзінокія жанчыны з вышэйшай адукацыяй. «У наш тэатр ходзіць шмат моладзі. Формы ўзаемадзеяння з імі розныя: выкарыстоўваем блогераў, актыўна працуем у інтэрнэт-прасторы, квіткі на спектаклі можна купіць праз усіх электронных апаратараў і нават праз смс-кі». Гэта працуе. Таму ёсць падставы разлічваць на поспех праекта «Тыдзень сучаснай беларускай драматургіі». Ён працуе на гледача яшчэ і таму, што, акрамя ўласна прагляду спектакля, пасля можна пачуць тлумачэнні мастацтвазнаўцаў, ёсць магчымасць пагаварыць з акцёрамі і драматургамі. «І тады тэатр не толькі забаўляе ці імкнецца вырашыць эстэтычныя пытанні — ён займаецца асветніцкай дзейнасцю, — лічыць Уладзімір Карачэўскі. — Як любы іншы тэатр, наш час ад часу праводзіць камерцыйныя мерапрыемствы. Але гэта не ідзе ў страты мастацтву, нашай асноўнай дзейнасці. Мы не ставім у асноўны рэпертуар разавыя забаўляльныя праекты. Але і яны могуць быць карыснымі: тэатральнае Купалле стала традыцыйным, калі паказваюцца творы Песняра, маладыя людзі гавораць па-беларуску, з задавальненнем чытаюць вершы. Акцёры тэатра былі аднымі з ініцыятараў праекта "Чытаем разам…" На прыгожай беларускай мове любімыя артысты чыталі Купалу, Багдановіча. Ці "Каляднае рандэву" як святочны праект задумваўся дзеля прыцягнення новага гледача, які шукае, дзе прабавіць вольны час. Гэта можа быць плацежаздольная публіка, якая прывыкла хадзіць у пафасныя месцы, а прыходзіць і адкрывае для сябе гэты тэатр і становіцца нашым гледачом».

# Навучанне Беларуссю

## Тэатр, што натхняецца краінай

Нездарма малады рэжысёр Аляксандр Марчанка звярнуўся да асобы народнай артысткі Беларусі Таццяны Мархель. Ён шукаў сябе: задаваў пытанні сабе самому пра разуменне краіны, пра адчуванне яе адметнасцей (шчыра прызнаўся, што для яго як для чалавека, які выхоўваўся паміж рускай і беларускай культурамі, шлях гэты быў няпросты). Пачула яго пытанні яна — і адказвае. Літаральна, рыхтуючыся за сцэнай да з'яўлення перад гледачом, ідзе па калідоры, у яе пра нешта пытаюцца, яна між спраў адказвае, нібыта на пытанні інтэрв'ю, якое ідзе ў прамым эфіры і відэа адразу выводзіцца на экран. Сітуацыя максімальнай гатоўнасці, бо сьвось трэба выйсці на сцэну. На адказы часу мала. У такіх умовах яны звычайна атрымліваюцца сутнаснымі, сканцэнтраванымі. Пра радасць ад жыцця. Пра боль, калі ў ім бываюць страты. Пра тое, з чаго пачалося разуменне сябе ў дзяўчынкі, якая вырасла ў вёсцы, у простай сям'і. Яна прызнаецца шчыра пра ўсё: «Мама, памятаю, калі бацька не вярнуўся з фронту, шмат плакала, пакутавала. А потым усё роўна спявала, бо душа прасіла. Ідзе са жніва — пяе, гатуе — пяе, вяселле на вёсцы — пяе, пад усё, што б ні рабіла, спявала». Інтэрв'ю, што пачалося за сцэнай, працягнецца потым перад гледачом. Толькі без інтэрв'юера, бо пытанні ўжо зададзеныя, яны існуюць паміж словаў, вісяць у паветры. А яна проста крыху больш за гадзіну будзе трымаць увагу сваімі адказамі: прамоўленымі і прапетымі.

Фактычна гэта можна было б назваць монаспектаклем: адна артыстка распавядае пра сваё адчуванне свету, пра роднае, пра зварот да традыцый, да народнай песні як да крыніцы сілы. Хоць некаторыя з іх яна праспявае ціха-ціха. І не толькі яна. Бо гучыць два галасы, яшчэ і мужчынскі. У нас так: два пачаткі суіснуюць у спалучэнні, сплятаюцца ў сугуччы ці ўдакладняюць адзін аднаго, дапаўняюць, бо абодва аднолькава патрэбныя для працягу. І хоць гаворыць пра Беларусь як пра краіну з жаночым тварам, і называем мы яе маці-радзіма, але ж яна для нас яшчэ і Бацькаўшчына, зямля бацькоў, якія баранілі, гінулі, і нават калі не вярталіся, усё адно прысутнічалі ў памяці, існавалі ў свядомасці, рассоўваючы вымярэнні, каб мінулае, цяперашняе і будучыня маглі наладзіць стасункі і замацаваць культуру ў вечнасці.

...Люблю, калі спявае Дзмітрый Лук'янчык. Музыка-фалькларыст бярэ ўдзел ужо не ў першым спектаклі Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Тут ён стварае гукавы фон: ці то голасам, ці праз інструменты, нават ударную ўстаноўку, але гэта гукі, якія дапамагаюць расстаўляць акцэнты ў тым, што сказала актрыса. У гэтай дзеі ўсё надзвычай проста. Нават тэхналагічна проста. Фактычна ніякіх дэкарацый, іх замяняе экран, на які выводзяцца выявы, што змяняюць адна адну. Але тэхналогіі дапамагаюць адчуць Беларусь праз вобразы, узятыя з рэчаіснасці, а словы і спевы павінны адкрываць іх метафізічны сэнс. Дух, душа, нешта нябачнае, але адчувальнае дагэтуль прысутнічае ў даўняй беларускай традыцыі, якая захоўваецца сёння ў фальклоры, мове, слове. Можна, зразумела, яе не заўважаць, але ад гэтага каштоўнасць душы ніколькі не губляецца, і яна ўсё адно робіць сваю справу для нас — асабліва плённа, калі мы гэта асэнсоўваем. Але калі нават пакуль не ўсе і не цалкам часціну гэтай беларускай душы-іскрынкі адчулі, то не ўсё страчана: гэтаму можна навучыцца. Як можна навучыцца разумець сваю мову, сваю любімую актрысу, якая на ёй спявае і размаўляе незалежна ад таго, дзе б ёй ні даводзілася жыць і працаваць: у роднай вёсцы, у абласным тэатры ці ў сталіцы.

Але ўсё ж нельга чакаць, што тут вас будуць вучыць як на паўнавартасным уроку — такога не адбываецца. Гэта хутчэй сяброўская сустрэча з людзьмі, якім не ўсё роўна. І калі яны дапамаглі ўпэўніцца ў любові да Беларусі Аляксандру Марчанку асабіста, то такі фармат сустрэчы можа быць карысны іншым, тым, хто шукае абрысы гэтай краіны не толькі на карце.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Ларыса ЦІМОШЫК**

**Заканчэнне. на 1-й стар.**

# Праекцыя душы

## Частка II: беларуская анімацыя ў асобах

**Новыя тэхналогіі ды мастацкія тэхнікі, міжнародныя прызы і глядацкае прызнанне... Беларуская анімацыя і ў пачатку свайго шляху, і зараз не губляе арыгінальнага падыходу да адлюстравання рэальнасці.**

### НОВАЕ СЛОВА

У пошуках новых тэм рэжысёры браліся і за вельмі складаныя: Ігар Воўчак, вядомы фільмам «Капрычыа», прыцягнуў увагу і да сябе, і да кіно мастацкім пошукам маляўнічага ўвасаблення тэмы, новай для айчыннага кіно тэхналогіяй. Жыццё ў яго інтэрпрэтацыі становіцца цягніком, а герой — пасажырам, які паглыбляецца ва ўспаміны: перад ім праплываюць эпізоды дзяцінства, юнацтва, бацькоўскага дома, вучобы, першых поспехаў і няўдач. Але цягнік рухаецца няспынна, жыццё працягваецца, успаміны знікаюць, і трэба вырашаць, што рабіць далей.

Рэжысёр падышоў да гэтага, бадай, галоўнага свайго фільма сталым чалавекам, прафесіяналам у некалькіх галінах мастацтва і адчуваў закранутую праблему ледзьве не знутры. Піяніст па першай спецыяльнасці, Воўчак асаблівую ўвагу надаў стварэнню складанай паліфанічнай формы з кантрапунктам выяўленчага і гукавага бакоў, уключыў у гукавую партытуру класічную музыку і выразныя шумавыя эфекты.

Роздум пра чалавека і яго месца ў грамадстве меў відавочны аўтабіяграфічны характар: назва стужкі звязана з музычнай п'есай асаблівай, свабоднай формы. Лаканізм анімацыйнага мастацтва дазволіў рэжысёру перадаць у дзесяці хвілінах экраннага часу адчуванне пражытага жыцця. І. Воўчак разам з мастаком А. Верашчагіным выкарысталі складаную тэхніку, дзе сумяшчаліся «жывапіс, што ажывае» ў сцэнах «дарослага» жыцця і метад перакладкі ў сцэнах успамінаў. Фільм перадаваў не рух канкрэтнай фабулы, а стан душы, у ім панавала асацыятыўнае апавяданне з мноствам алюзій і намёкаў. Наогул фільм стаў новым словам у беларускай анімацыі.

Стужка «Лафертаўская макаўніца» Алены Марчанка (Пяткевіч) была яе дыпломнай работай на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах майстэрні Ф. Хітрука і Ю. Нарштэйна. Зараз гэтай выпускной работай захапляюцца і лічаць адным з лепшых узораў айчыннай анімацыі. Знятая па матывах аднайменнай аповесці Антонія Пагарэльскага, гэта гісторыя пра маленькую дзяўчынку-сірату, якую злая мачаха дасылае да бабулі — Добрай макаўніцы, казкі якой дапамагаюць юнай істоце спасцігаць таямніцы свету. Галоўная ідэя стужкі: усё багацце — у чалавеку.

Над фільмам працавалі таленавітыя мастакі-мультыплікатары У. Пяткевіч і В. Бакуновіч, мастак-жывапісец М. Тумеля. З такім калектывам прафесіяналаў малады рэжысёр смела пайшла па шляху адкрыцця новых анімацыйных гарызонтаў. Карціна прасякнута пераліванні чорнага, шэрага і белага колераў. Аўтары звярнуліся да архетыпавых колераў начной цемры і сонечнага святла. Дзяўчынка быццам матэрыялізуе аўтарскае светаадчуванне і павольна лётае, ператвараецца ў птушку. Добрая бабуля сядзіць на воблаку і сее зоркі, якія падаюць на зямлю і ператвараюцца ў дом, дрэва, млын...

Здзіўляе незвычайная тэхніка чорнага парашку, якая ўпершыню выкарыстоўвалася на студыі. У рабоце адчуваўся ўплыў Ю. Нарштэйна, а таксама стужкі «Ноч» У. Пяткевіча, але ўзровень мастацкага мыслення выдаваў духоўна адоранага аўтара, таленавітага кінематаграфіста. Атрымалася, па выразе крытыкаў, «паэтычная філасофія, настоеная на скразной метафарызацыі свету». Наогул аўтарскае кіно стала сапраўднай культурнай з'явай у айчынным экранным мастацтве і вызначыла галоўныя эстэтычныя дасягненні беларускай анімацыі.

### СТУДЫЙНЫ РУХ

З набыццём незалежнасці ў Беларусі адбыліся значныя падзеі, якія мелі вялікі ўплыў на развіццё анімацыйнай школы: напрыклад, у 1992 годзе Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў аб'явіла набор на аддзяленне рэжысёраў анімацыйнага кіно. Гэта была спроба стварэння новай генерацыі айчынных аніматараў. Наступны набор адбыўся толькі ў 2008 годзе. У розныя гады на студыі анімацыйных фільмаў Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм» арганізоўваліся курсы мастакоў-аніматараў. Сярод выкладчыкаў — такія майстры, як І. Воўчак, М. Тумеля, В. Казлоў.

З 1998 года дзякуючы намаганням І. Воўчака і М. Тумелі ў Беларусі ладзіцца Міжнародны фестываль анімацыйнага кіно «Анімаёўка». Калі ў першым фестывалі бралі ўдзел толькі беларускія стужкі, то ў апошні час геаграфічная карта падзей ў Магілёве пашырылася: мастакі з Вялікабрытаніі, Нарвегіі, Германіі, Францыі, Бельгіі, Канады, Ірана, Польшчы, Расіі, Казахстана, краін Балтыі і інш. Каб папулярызаваць анімацыйнае мастацтва, М. Тумеля на беларускім тэлебачанні вёў перадачу «МультыКлуб».



Кадр з фільма «Марафон» (рэж. М. Тумеля).

Студыйны рух узмацніўся са з'яўленнем незалежных студый анімацыйнага кіно. Менавіта там былі зняты першыя беларускія поўнаметражныя анімацыйныя стужкі: «Дэкамерон» А. Белавусава, «Сын чалавечы» Т. Жыткоўскай, «Чароўная дудка» М. Тумелі. Вядомыя аніматары Л. Шукалюкоў і В. Чыкіна стварылі «Студыю-3», у назве якой закладзена ідэя сінтэзу літаратуры, жывапісу і кіно. Усе гэтыя доследы дагэтуль застаюцца актуальнымі па маштабах ідэй і ўзроўні мастацкіх рашэнняў.

Мастацкім кіраўніком студыі мультыплікацыйных фільмаў на кінастудыі «Беларусьфільм» у 1990-я гады быў ужо вядомы І. Воўчак. На жаль, далёка не ўсе праекты даходзілі да пераможнага канца: фінансаванне спынялася, працы мастакоў адпраўляліся на сметнік, спецыялісты пакідалі краіну ці ўвогуле сыходзілі з прафесіі... Але аніматары незалежных аб'яднанняў нарэшце вярнуліся ў дзяржаўную структуру, хаця яна не абяцала лёгкага выхаду з цяжкага эканамічнага становішча. У выніку «Беларусьфільм» зноў стаў адзіным прытулкам мультыплікацыі.



Кадр з фільма «Жыло-было дрэва» (рэж. У. Пяткевіч).

Менавіта ў гэты час з'явілася адчуванне сталасці і пэўнасці індывідуальных аўтарскіх стыляў, што дазволіла гаварыць пра існаванне беларускай школы анімацыі. Так, анімацыйны свет фільмаў І. Воўчака мае дакладныя жанравыя рысы канкрэтных жанраў — байкі, анекдота, гумарэскі, якія прысутнічаюць у стужках, прасякнутых жывым гумарам і вясёлай пародыяй. У фільме «Пастараль» існуюць два светы — прыродны і чалавечы. Свет прыроды паказаны тонка, дэталёва, лірычна, у той час як чалавечы — больш прасталінейна, гумарыстычна, сакавіта. У гэтым жыцці трактар з п'яным трактарыстам падае з моста і баразніць дно ракі; няўдачлівыя рыбакі шукаюць схаваную ў дровах бутэльку. Поруч існуюць таямнічае жыццё падводных жыхароў і прыгожае світанне над возерам. Іншы вобразны строй у стужцы «Скерца», якая здымалася ў кватэры знакамітага рускага акцёра Барыса Шчукіна.

### ІСЦІНА Ў КІНО

Бліскучая фантазія рэжысёра М. Тумелі не мае межаў, яна ахоплівае вобразы міфалогіі і сучаснасці, казкі і прыпавесці. Ён працуе ў розных тэхніках і жанрах, актыўна выкарыстоўвае магчымасці ўвасаблення на экране стылістычна складаных рэчаў з дапамогай маляванай, аб'ёмнай і камп'ютарнай анімацыі. Яго фільмы вылучаюцца арыгінальнай аўтарскай ідэяй і своеасаблівым і заўсёды непаўторным вырашэннем. У стужцы «Рыса» існуюць абстрактныя маляваныя персанажы. «Марафон» пабудаваны на чорных сілуэтах. Героямі поўнаметражнага фільма «Чароўная дудка» з'яўляюцца лялькі.

Удзел у сумесных беларуска-расійскіх праектах прынёс Тумелю міжнароднае прызнанне. Амаль кожны яго фільм — эксперымент і пошук новых сэнсавых і пластычных магчымасцей анімацыі, сярод іх камп'ютарныя стужкі «Аса» і «Мячык». Сапраўдным мастацкім дасягненнем стала поўнаметражная лялечная стужка «Чароўная дудка», створаная разам з мастаком Д. Сурыновічам. Уражвае дасканалае веданне аўтарамі анатоміі, высноў прафесійнага малюнка і так званай школы класічнага руху, калі мастак ведае і адчувае дэталі і рысы фігур і рэчаў, асаблівасці іх пластыкі ў прасторы і часе, ведае, колькі кадраў патрэбна на кожны рух. Адной з лепшых сцэн стаў бліскучы мужчынскі танец на вастрыях кінжалаў, прыдуманы Тумелем. Праект знайшоў шматлікіх прыхільнікаў і атрымаў прызы міжнародных і айчынных фестываляў.

Своеасаблівай і значнай фігурай айчыннага мастацтва з'яўляецца У. Пяткевіч. Ён стаў вядомым майстрам яшчэ падчас працы на Свярдлоўскай кінастудыі, у яго стужках браў удзел мастак Аляксандр Пятроў, уладальнік прэміі «Оскар». Зараз існуе цэлая сямейная дынастыя Пяткевічаў — жонка У. Пяткевіча і дачка В. Марчанка, мастак анімацыйнага кіно.

У працах У. Пяткевіча фальклорна-казачны ці гістарычны матэрыял перакладаецца на метафарычную, шматслаёвую маляўнічагукавую мову. Складаная візуальная ідэя падаецца ў розных відах тэхнікі, у тым ліку жывапісам пяском па шкле ці афарбаваным пяском.

Уплыў прыпавесці адчуваецца ў фільмах «Казкі лесу» і «Жыло-было дрэва...». Чароўны казачны свет у стужцы «Казкі лесу» сатканы з мноства выяўленчых і гукавых дэталяў. Тэкст дзіцячай лічылкі, які гучыць за кадрам, суправаджае аповед пра маленькага коніка, які толькі пачынае жыць і нічога не ўмее: «лётаць не атрымоўваецца, толькі пяткі свярбяць». Карціны чарадзейнага лесу і прыгодаў коніка паўстаюць як вобразы адзінства вялікага свету прыроды і маленькай істоты.

Выразна і з гумарам паказаны іншыя персанажы — нянька-слімак Варвара, божая кароўка, «страшная і жахлівая» блыха. Паступова конік вучыцца пераадольваць страх перад таямніцамі жыцця і нарэшце ляціць у начным паветры. У фільме існуе ідэя святла і шляху да яго, вельмі важная для ўсіх фільмаў Пяткевіча. Светлякі, месяц, блікі вады — шмат якія дэталі адлюстроўваюць схаваную прысутнасць святла, якое тоесна ісціне. «Усё свеціць, але дакранешся — усё не тое. Дзе ж сапраўднае святло?» — пытаецца конік. У сваім доме ён запальвае свечку, якая свеціць усім, каму страшна. Казка пра някемлівага коніка вырастае да ўзроўню прыпавесці пра пошукі сэнсу жыцця. Тое ж самае можна сказаць і пра ўсю астатнюю анімацыю, якая становіцца сапраўдным урокам філасофіі для аматараў кіно.

**Антаніна КАРПІЛАВА**

# Пераможная ілюмінацыя

## Як зварот да каранёў становіцца білетам на «Еўрабачанне»

**Усё новае — добра забытае старое. Часам аднаўляючы, вяртаючы да жыцця нешта з мінулага, можна знайсці нечаканыя пярліны. Адна з такіх пярлін — песня, якая прадставіць Беларусь на сёлетнім «Еўрабачанні». Такой нашу краіну яшчэ не бачылі: упершыню на конкурс едзе беларускамоўны фолк (народная манера выканання) «Гісторыя майго жыцця» гурта *NAVI*.**

Сёння калектыў складаецца з пяці артыстаў, але чуем мы галасы Арцёма Лук'яненкі і Ксеніі Жук — яны пішуць музыку, словы і выконваюць песні. Фанаты называюць творчасць *NAVI* музыкай сонца. І ў гэтым лёгка ўпэўніцца, паслухаўшы іх новы альбом «Ілюмінацыя», які сапраўды асвятляе сваім лірызмам. Але папулярнасць гурта пачала ўзрастаць пасля адбору на «Еўрабачанне»: кліп на конкурсную песню пагледзелі больш за 115 тысяч разоў, а прыхільнікі з замежжа нават робяць каверы на «Гісторыю майго жыцця».

Шлях да перамогі на нацыянальным адборы быў калі не доўгім, то цяжкім: гурт удзельнічаў у фінале ўжо ў другі раз, але сёлета беларускамоўная песня нарэшце атрымала прызнанне. Падчас фіналу за яе прагаласавалі і прафесійнае журы, і гледачы.

За перамогу ў нацыянальным адборы *NAVI* атрымалі не толькі пуцёўку ў Кіеў, але і сімвалічнае шкляное сэрца, якое традыцыйна ўручаецца прадстаўніку Беларусі на «Еўрабачанні». Але Арцём і Ксенія сэрца не ўратавалі: яно разбілася, як кажуць, на шчасце. Арцём лічыць, што журы атрымалася скарыць «энергетыкай, лёгкасцю да жыцця, весялосцю і той часткай песні, якую можа спяваць кожны чалавек асабіста; такія адносіны да слухача, калі ён можа паўдзельнічаць непасрэдна ў выступленні, чапляюць слухачоў, ім гэта сапраўды падабаецца».




*Фота Анастасіі Жалнерчык.*

*Ксенія Жук і Арцём Лук'яненка.*

Як вядома, пасля перамогі на нацыянальным адборы праца музыкантаў звычайна не спыняецца: напярэдадні дапрацоўка нумара, увага да дэталяў. Але *NAVI* кардынальных змен «Гісторыі майго жыцця» не плануюць, хоць нумар, па прызнанні артыстаў, быў імправізацыйным: «Чаго хоча слухач — мы не ведаем. Рабіць трэба так, як ідзе ад сэрца, — менавіта так у нас і адбываецца. І галоўнае для нас тое, што людзі на канцэрты прыходзяць, — наша музыка ім падабаецца. Напэўна, менавіта гэта і патрэбна», — падсумаваў Арцём.

Магчыма, гэта і стала галоўным фактарам для перамогі. Усё ж выкананая песня — гэта не проста словы і музыка, а натуральныя настрой і эмоцыі. Будуць удасканальвацца касцюмы, але тэма этна застанецца нязменнай. *NAVI* адзначаюць, што не хацелі б дадаваць англійскія словы ў песню: для выканаўцаў важна спяваць на роднай мове. Арцём Лук'яненка дадае: «Пакуль мы і самі не ведаем, які будзе наша выступленне, бо трэба вызначыцца з рознымі фармальнасцямі. Мы ўпэўнены, што змяненні будуць, і імі мы абавязкова ўдасканалім нумар».

У дзень сваёй пакуль галоўнай перамогі артысты выпусцілі і новы альбом «Ілюмінацыя». Гэта ўжо трэцяя кружэлка за трохгадовае творчае жыццё *NAVI*. У альбом уключаны восем песень, сярод іх і «Гісторыя майго жыцця». Арцём адзначае, што альбом пісалі не вельмі доўга: «Больш часу працавалі над рознымі момантамі падачы кружэлкі, бо запісалі больш песень, чым было запланавана. Але ўключылі толькі восем. Усё атрымалася так хутка, што нават самі не заўважылі, — альбом запісалі дзесьці за паўгода. Мы вельмі ганарымся гэтай працай, і на дадзены момант гэта лепшае, што мы зрабілі ў студыйным плане».

Асаблівым падарункам для прыхільнікаў творчасці гурта стала і сумесная песня *NAVI*, запісаная з вядомым драматургам Яўгенам Грышкаўцом, — «Калыханка». Хоць Грышкавец і вядомы сваімі дуэтамі з грузінскімі, латышскімі выканаўцамі, але з беларусамі ён папрацаваў упершыню.

Дарэчы, у гэтым неверагодным сінтэзе дапамагла выпадковасць: Грышкавец пачуў *NAVI* у гомельскім бары, і гэта сустрэча стала вырашальнай. На «Калыханцы» артысты спыняцца не збіраюцца: музыкальнага матэрыялу ў іх хапае. Магчыма, атрымаецца і паўнавартасны альбом. А «Калыханку» напісала Ксенія Жук. Арцём Лук'яненка распавядае, што гэта яе асабістыя перажыванні: «Гэтыя эмоцыі, пачуцці доўга назапашваліся, а пасля проста выліліся ў такія радкі».

Астатнія песні ў альбоме — пяшчотная, нават трапяткая мелодыя і такія ж словы. Але здзіўляе тое, што ў той жа час песні гурта могуць быць і моцнымі, цвёрдымі, нагадваючы вялізныя хвалі. Музыка *NAVI* — каханне ў чыстым выглядзе, а апісанне, якое даюць ёй прыхільнікі калектыву, «музыка сонца», самае трапнае. Падтрымаць пераможцаў хутка можна будзе на іх канцэрце: найбліжэйшы, у падтрымку альбома «Ілюмінацыя», адбудзецца 14 лютага ў Мінску.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Вяжа ад *«BON VOYAGE»*

Наталіцца музыкай сёння запрашаюць не толькі філармоніі і канцэртныя залы, але і... мастацкія галерэі! 28 студзеня ў Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага адбудзецца канцэртная праграма «Музычнае падарожжа» ад вакальна-інструментальнага калектыву «*BON VOYAGE*».

Мерапрыемства пройдзе ў межах міжнароднай выстаўкі сучаснага мастацтва «Ад Лісабона праз Мінск да Уладзівастока» і аб'ядноае музыку краін-удзельніц выстаўкі пад дахам адной галерэі: арганізатары абяцаюць і меладычныя, і рытмічныя, і рамантычныя кампазіцыі за адзін вечар. Разнастайныя творы мастакоў у студзеньскі вечар «размалююць» музычнымі фарбамі Святлана Стэфаненка (фартэпіяна), Вольга Перагуд (сапрана), Эла Іванова (скрыпка), Лізавета Вільчык (флейта), Алена Сяргеенка (гітара), Таццяна Беразоўская (перкусія).



*Артысткі калектыву «BON VOYAGE».*

«*BON VOYAGE*» — праект, створаны ў 2014 годзе. Ён аб'яднаў маладых музыкантаў, лаўрэатаў і дыпламантаў рэспубліканскіх ды міжнародных конкурсаў, якія валодаюць яркай індывідуальнасцю і вялікім творчым патэнцыялам. У праекце ўдзельнічаюць выключна дзяўчаты, што папулярызуе і жаночую творчасць. Даволі часта «*BON VOYAGE*» можна пачуць на дабрачынных і музейных мерапрыемствах.

Калектыў выконвае і папулярную класіку, і брадвейскія мелодыі. Таксама ансамбль знаёміць слухачоў з музыкай з кінафільмаў і арыгінальнымі апрацоўкамі народных песень з розных краін свету.

Музычнае падарожжа абяцае быць насычаным: артысты выканаюць кампазіцыі краін, прадстаўленых на выстаўцы. У канцэртную праграму ўключаны беларускія творы Яўгена Магаліфа, украінскія — Мірaслава Скорыка, расійскія — Валянціна Левашова, а нашых польскіх суседзяў прадставіць музыка Фрыдэрыка Шапэна. Рамантычную Францыю ўзгадаюць па творах Эрыка Саці, эмацыянальную Іспанію — Артура Кардэліуса. Таксама слухачы пачуюць музыку з Румыніі, Чэхіі, Венгрыі, Партугаліі, Аўстрыі, Галандыі, Фінляндыі, Італіі. Яшчэ адзін сюрпрыз — апрацоўкі народных песень Сербіі, Англіі і Балгарыі. Музычна-мастацкае падарожжа будзе выдатнай магчымасцю таксама і для тых, хто хоча адчуць жарсць танга, узгадаць мелодыю «Апошняй сустрэчы» Анны Герман і пачуць раманс Марына Марыні.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Знойдзена невядомая выява Фрыдэрыка Шапэна

Дагетуль невядомае фота Фрыдэрыка Шапэна (1810 — 1849), у выкананні тэхнікі дагератыпу, выявіў знаўца творчасці Шапэна швейцарскі фізік Ален Кохлер *(Alain Kohler)*. Пра гэта днямі паведаміў *Institut Polonais* (Інстытут Польскі) у Парыжы. Гэта стала сапраўднай сенсацыяй, асабліва сярод аматараў фартэпіяннай музыкі. Справа ў тым, што да гэтага моманту былі вядомы толькі два дакладна апазнаныя фотапартрэты гэтага сусветна вядомага піяніста-віртуоза, заснавальніка польскай нацыянальнай кампазітарскай школы і генія фартэпіяннай музыкі. Адзін з фотапартрэтаў — работа французскага фатографа Луіса-Аўгуста Бісона, 1849 год. І яшчэ адно фота 1847 года невядомага аўтара. Больш пра фота Шапэна да гэтага часу не было вядома.



Ален Кохлер разам з яшчэ адным аматарам творчасці Шапэна, Джылем Бенцімонам *(Gilles Bencimon, Radio France Internationale)*, правялі старраннае расследаванне, у выніку чаго сышліся ў меркаванні, што гэта фатаграфічная рэпрадукцыя невядомага дагэтуль дагератыпу (ранні фатаграфічны працэс, заснаваны на выкарыстанні святлоадчувальнай меднай пласцінкі, пакрытай слоем ёдзістага срэбра) Шапэна. Рэпрадукцыя выканана са старога дагератыпу прыблізна ў 1847 годзе, у майстэрні Луі-Аўгуста Бісона, то бок на ім вядомаму кампазітару 37 год, за два гады да смерці. Больш дэталёвая інфармацыя пра знаходку пакуль не паведамляецца.

Варта адзначыць, што гэта ўжо не першая знаходка на рахунку Алена Кохлера. Два гады таму яму пашчасціла адшукаць фартэпіяна фірмы *Pleyel* № 11265, якое належала Шапэну, узімку — увесну 1844 — 1845. Гэта той час, калі кампазітар пражываў на *Square d'Orléans* у Парыжы.

**Алег ГРУШЭЦКІ**

# Натхнёныя Мулявіным



Твор Леаніда Бартлава.

**Існаваць у згодзе з Богам, зямлёй і самім сабой... Як кажуць сябры славутага песняра, такая характарыстыка абсалютна дакладна стасуецца з правіламі жыцця Уладзіміра Мулявіна. У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры працуе выстаўка «Іліатрапіён» Леаніда Бартлава і Валянціны Маркавец-Бартлавай, прысвечаная любімаму і дарагому сябру сям'і — Уладзіміру Мулявіну.**

Іліатрапіён, альбо ў перакладзе з грэчаскай мовы «сланечнік», — сувязь волі чалавека з воляй Бога. Аўтары выстаўкі падрыхтавалі праект з мэтай паказаць, што ёсць вечныя людзі, пра якіх не забываюць, творчасць і дух якіх працягвае жыць у душы ўсёй нацыі.

Выстаўка складаецца з твораў жывапісу Леаніда Бартлава, вытканых у тэхніцы габелену, ды батыка Валянціны Маркавец-Бартлавай. Экспанаты адначасова — зварот да мінулага і да будучыні. Узгадваюцца вечныя каштоўнасці, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленне, моманты гісторыі і прынцыпы, якімі павінен кіравацца сумленны чалавек. Мастакі шмат гадоў сябравалі з сям'ёй Уладзіміра Мулявіна. Для іх гэтае сяброўства — гонар, які падмацоўваецца дарагімі ўспамінамі.

— Гэтая выстаўка закранае творчасць Уладзіміра Мулявіна, стан душы генія і наша разуменне таго, як ён адчуваў свет, — расказвае аўтар выстаўкі, мастак Леанід Бартлаў. — Батыкі Валянціны Маркавец-Бартлавай нарадзіліся дзякуючы энергетыцы нашага сябра. Калі я падбіраў творы, прадстаўляў духоўныя складнікі не толькі творчасці, але ж і ўнутранага свету Уладзіміра Георгіевіча. Тут прысутнічаюць творы, якія паказваюць ноткі душы кампазітара, аўтара, музыкі, а іншыя расказваюць пра Мулявіна як пра чалавека. Прыкладам, твор «Гара ўзвышэння» дэманструе стан, калі ён мог пайсці ад шматлікіх вачэй, пабыць у адзіноце, як гэта любіў, але прымушаў сябе застацца, не здраджваць людзям і справе. Тут экспануюцца пейзажы, якія ён так хацеў убачыць, пажыць сярод іх некалькі дзён, але па лёсе не прыйшлося.

У цэнтры выставачнай залы прадстаўлена работа ў выглядзе сланечніка, створаная ў тэхніцы плеценага ткацтва. Валянціна Маркавец-Бартлава сцвярджае, што Уладзімір Мулявін, як і сланечнік, заўсёды цягнуўся за сонейкам, натхняўся яго ўласцівасцю — саграваць. Валянціна Пятроўна падкрэслівае: Уладзімір Георгіевіч быў такім жа — мог аб'яднаць вакол сябе вялікую колькасць людзей і нікога не абдзяліць увагай.

Разам з Уладзімірам Мулявінам Леанід Бартлаў працаваў над стварэннем яго канцэртных праграм, а Валянціна Маркавец-Бартлава і мастачка Галіна Крываблоцкая стваралі касцюмы для выступленняў. Фотаздымкі некаторых касцюмаў таксама прадстаўлены ў экспазіцыі.

— З Уладзімірам Георгіевічам мы знаёмыя з 1975 года. Тады ён адшукаў нас, маладых мастакоў, хацеў унесці больш свежую арыгінальную тэндэнцыю ў творчасць, — расказвае Галіна Крываблоцкая. — Мы з Валянцінай былі мастакамі па касцюмах, працавалі над рок-фолк-операй. У выніку агульнай працы творчыя стасункі перараслі ў шчырыя сяброўскія. Бывала, пяць год не бачыліся, а калі ў ансамбля «Песняры» быў канцэрт у Мінску, Валодзя перадаваў нам білеты, гаварыў: «Жадаю бачыць вас. Не можам так сустрэцца, дык хоць на канцэрце». Пасля сядзім на канцэрце, а ён спявае і адначасова пазірае на нас і ўсміхаецца. Мы сустракаліся на святы, на лецішчы. Валодзя заўсёды казаў: «Без Беларусі не магу». Хоць у яго было столькі прапаноў выязджаць: у Германію клікалі, у Амерыку, але нідзе, акрамя Беларусі, ён не мог працаваць. Што казаць, мы ўсе жылі на адной вуліцы. Я добра памятаю, як ён любіў гуляць пехатою і нас запрашаў. Натхняўся архітэктурай горада, яго чароўным паветрам.

Неверагодна, як творчасць аднаго чалавека можа фарміраваць творчасць іншых людзей. Напэўна, справа нават не ў сяброўстве, а ў непаўторнай энергетыцы. Пра многае гаворыць той факт, што сёння імя Уладзіміра Мулявіна гучыць у асяроддзі не толькі тых, хто яго ведаў, але і ў моладзі, якая перапявае песні славутага песняра і захапляецца яго талентам.

**Вікторыя АСКЕРА**



Твор Валянціны Маркавец-Бартлавай.

## *Культурны ракурс*

**Капыльшчына багатая на помнікі архітэктуры. Вялікую цікавасць у гасцей райцэнтра выклікае Спаса-Узвзнясенская царква, якую можна лічыць візітоўкай Капыля. Лёс храма цесна пераплецены з гісторыяй нашага народа.**

**Упершыню гэты храм згадваецца ў 1638 годзе. Да канца XVIII стагоддзя будынак моцна састарэў, таму вырашылі пабудаваць іншы. Новая царква была закладзена 15 чэрвеня 1799 года, а праз восем гадоў — пабудавана, асвечана і названа ў гонар Узнясення Гасподняга. Але 1 жніўня 1833 года храм па невядомай прычыне згарэў. Праз год змайстравалі невялікую драўляную царкву. І толькі ў 1866 годзе ў Капылі ўзвялі храм, які ўпрыгожвае горад ужо 150 гадоў.**

**Царква, якую пабудавалі з бутавага каменю ды цэглы, мае выгляд прадаўгаватага крыжа з адным купалам пасярэдзіне.**



**Таццяна НЯДЗЕЛЬКА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў мінулым нумары нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
26.01.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1637.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004 г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Індэкс 220013

Заказ — 188

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686
9 770024 468001 17004